АНДРЭЙ КАЛЯДА

# БЕЛАРУСКАЕ *літаратурнае* ВЫМАЎЛЕННЕ

Практыкум па дыкцыі і арфаэпіі

Мінск
"Тэхналогія"
2006

УДК 811.161.3(075.8)
ББК 81.2Бел-923
К 17

*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" і Андрэй Каляда выказваюць падзяку сп-ні Ірэне Калядзе-Смірновай, старшыні Дабрачыннага фонду "Ethnic Voice of America" (Парма, ЗША), за чынную дапамогу ў выданні кнігі*

Рэцэнзенты:
доктар педагагічных навук М.Г.Яленскі
кандыдат філалагічных навук М.Ф.Гуліцкі



**Каляда, А.А.**
К 17 Беларускае літаратурнае вымаўленне: Практыкум па дыкцыі і арфаэпіі / А.А.Каляда. – Мн.: Тэхналогія, 2006. – 99 с.
ISBN 985-458-127-6.

Звесткі пра асаблівасці літаратурнага вымаўлення, артыкуляцыю галосных і зычных гукаў беларускай мовы падмацаваны прыкладамі вымаўлення кожнага гуку асобна і спалучэнняў яго з іншымі гукамі. Для адпрацоўкі дыкцыйнай выразнасці і практычнага засваення нормаў беларускага літаратурнага вымаўлення ў дапаможніку змешчаны прыказкі, прымаўкі, чыстагаворкі, скорагаворкі, асобныя строфы з вершаў беларускіх паэтаў.

Для студэнтаў, выкладчыкаў беларускай мовы і ўсіх, хто хоча самастойна вывучыць і засвоіць арфаэпічныя нормы беларускай мовы.

Кніга выдадзена на замову МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

**УДК 811.161.3(075.8)**
**ББК 81.2Бел-923**

**ISBN 985-458-127-6**

# ПРАДМОВА

На Беларусі прыблізна трэць насельніцтва ў моўнай практыцы карыстаецца дзвюма мовамі – мовай сваёй нацыянальнасці і рускай мовай. Гэта абумоўлена шэрагам сацыяльных, гістарычных, культурных і псіхалагічных фактараў. Наша рэспубліка характарызуецца не толькі вялікім пашырэннем двухмоўя, але і своеасаблівасцю яго рэальнага функцыянавання. Двухмоўе ў нас мае характар літаратурнага двухмоўя. Беларуская і руская мовы маюць статус дзяржаўных, але неабходна яшчэ шмат зрабіць, каб нацыянальная мова стала раўнапраўным партнёрам у працэсе моўнай камунікацыі на тэрыторыі незалежнай Беларусі.

Каб практычна дапамагчы ўсім, хто хоча самастойна вывучыць і засвоіць арфаэпічныя нормы беларускай мовы, і прапануецца метадычны дапаможнік "Практыкум па дыкцыі і арфаэпіі".

**Дыкцыя** (з латыні *dicere* – прамаўленне, *dictio* – вымаўленне) – чысціня і выразнасць прамаўлення галосных і зычных гукаў паасобку, а таксама слоў, словазлучэнняў і фраз у цэлым. Ад выразнасці прамаўлення залежыць чысціня і прыгажосць вуснай мовы.

Мова чалавека можа быць *правільная* – выразная, чыстая, зразумелая, а таксама *няправільная*, гэта значыць у ёй ёсць пэўныя хібы і заганы. Моўныя недахопы даволі разнастайныя. Яны залежаць ад стану цэнтральнай нервовай сістэмы, ад будовы языка, зубоў, губ, паднябення, сківіц, насаглоткі і падзяляюцца на *арганічныя*, звязаныя з фізіялагічнымі парушэннямі моўных органаў, і *неарганічныя*, звычайна яны – вынік механічнага

пераймання чужых недахопаў або нядбайнага выхавання культуры вуснай мовы чалавека.

Выпраўляць недахопы прамаўлення можна шляхам медыцынскай аперацыі або штодзённай трэніроўкай некаторых частак моўнага апарату, але папярэдне абавязкова трэба высветліць іх прычыну. Таму людзі, у мове якіх ёсць картавасць, шапялявасць, гугнявасць і інш., павінны пракансультавацца ў лагапеда, каб правільна вызначыць шлях выпраўлення названых недахопаў.

**Арфаэпія** (ад грэч. *orthos* – правільны, *epos* – мова) – сістэма правілаў, якія вызначаюць літаратурнае вымаўленне*.

Беларуская літаратурная мова – гэта ў сваёй аснове агульнанародная мова, але адшліфаваная і апрацаваная. Яна багацейшая за любую асобна ўзятую мясцовую гаворку сваім слоўнікавым складам, фразеалогіяй, граматычнымі формамі і сінтаксічнымі канструкцыямі. Вядома, літаратурная мова – гэта не толькі мова мастацкай літаратуры. Літаратурнай павінна быць мова перыядычнага і навуковага друку, мова школы, радыё, тэатра, кіно, тэлебачання. Істотная асаблівасць літаратурнай мовы – наяўнасць у ёй агульнапрынятых нормаў, ці, так бы мовіць, літаратурная мова – гэта нармалізаваная агульнанародная мова.

Сучасная беларуская мова, як і любая іншая літаратурная мова, мае свае лексічныя, граматычныя, арфаграфічныя і арфаэпічныя нормы. Больш засяродзімся на *арфаэпічных* нормах.

Калі ў дачыненні да пісьмовай формы мовы зразумела, што маецца на ўвазе пад яе правільнасцю, то ў адносінах да вуснай мовы паняцце правільнасці з'яўляецца менш выразным і акрэсленым.

Тым не менш існуюць фанетычныя рысы, якія лічацца абавязковымі для *літаратурнага* вымаўлення:

---

* Для практыкума выкарыстаны асобныя матэрыялы з наступных прац: Янкоўскі Ф.М. Беларускае літаратурнае вымаўленне. Выд. 4-е. Мн., 1976; Падлужны А.І. Нормы беларускага літаратурнага вымаўлення. У кн.: Сучасная беларуская мова: Пытанні культуры мовы / Пад рэдакцыяй П.І.Жураўскага, Г.У.Арашонкавай. Мн., 1973.

– поўны характар *мяккасці* зычных як перад асобнымі галоснымі, так і перад некаторымі зычнымі;

– *цвёрдае* вымаўленне зычных [Ч] і [Р];

– вымаўленне нескладовага [Ў] і афрыкаты [ДЖ] у адпаведных фанетычных пазіцыях;

– *аканне* пры вымаўленні ненаціскных галосных;

– *фрыкатыўны* характар звонкага [Г] і інш.

Менавіта гэтыя фанетычныя рысы адрозніваюць беларускую мову ад суседніх славянскіх моў, найбольш блізкіх да яе паводле лексічнага складу.

Засваенне нормаў беларускага літаратурнага вымаўлення пачынаецца ў маленстве. Вялікая роля ў гэтай справе належыць сям'і, школе, сярэднім і вышэйшым навучальным установам. Значна ўплывае на засваенне дзецьмі і моладдзю правільнага літаратурнага вымаўлення асяроддзе людзей, дзе карыстаюцца літаратурнай моваю.

Асноўнай прычынай адхіленняў ад нормаў літаратурнага вымаўлення з'яўляецца захаванне ў мове *дыялектных* рысаў, якія не супадаюць з фанетычнымі рысамі літаратурнай мовы. Гэта можа быць змяненне якасці галосных; вымаўленне на месцы падоўжаных зычных значна скарочаных, а часам і зусім кароткіх; адступленне ад правілаў акання і якання; амаль поўны пропуск зычнага [Г] у канчатках прыметнікаў і дзеепрыметнікаў; рэдукаванае вымаўленне спалучэння СЦЬ; парушэнне правілаў аглушэння і азванчэння зычных і інш.

Другой прычынай парушэння арфаэпічных нормаў з'яўляецца двухмоўная сітуацыя, калі адзін і той жа чалавек карыстаецца то беларускай, то рускай мовай. Пры слаба выпрацаваных навыках вымаўлення звычайна парушаюцца арфаэпічныя правілы як адной, так і другой мовы. Адхіленні, выкліканыя двухмоўем, сведчаць пра недасканалае валоданне беларускай і рускай мовамі. Спрыяльнай умовай для адхілення пад уплывам двухмоўя бывае часта тое, што асобныя фанетычныя рысы беларускай мовы супадаюць з фанетычнымі рысамі рускай мовы. Гэта датычыцца, галоўным чынам, ненаціскных галосных, бо ў

паўночна-ўсходнім дыялекце назіраецца іх рэдукцыя, якая ў пэўных фанетычных умовах нагадвае рэдукцыю ў рускай літаратурнай мове.

Пад уплывам рускай мовы магчыма не зусім цвёрдае вымаўленне зычнага [Ч]; губна-зубнога [В] на месцы губна-губнога [Ў] нескладовага; вымаўленне афрыкаты [ДЖ] як спалучэння гукаў або замена яе на зычны [Ж]; паўмяккі [Р]; няпоўнае змякчэнне або цвёрдае вымаўленне [З], [С] перад мяккімі зычнымі і іншыя адхіленні.

Трэцяй істотнай крыніцай памылак у вымаўленні з'яўляецца *паліпарнае* чытанне. Літары не заўсёды абазначаюць тыя гукі, якія трэба вымаўляць. Таму пад час вусных выступленняў, калі тэкст прамовы напісаны (падрыхтаваны) раней, частка гукавых асаблівасцяў павінна ўзнаўляцца без апоры на запіс. Але гэта магчыма толькі пры добра адпрацаваных навыках вымаўлення. Часта не звяртаюць увагі на адрозненні паміж напісаннем і вымаўленнем і чытаюць, як напісана – палітарна. У выніку палітарнага чытання адхіленні, якія ўзніклі пад уплывам дыялектных асаблівасцяў гаворкі і рускай мовы, замацоўваюцца. Адначасова ўзнікаюць і спецыфічныя памылкі: вымаўленне ў некаторых выпадках галоснага [І] без прыстаўнога [Й]; нескладовага [Ў] у пачатку слова; няправільнае ўжыванне [Г] выбухнога, які сустракаецца ў запазычаных, галоўным чынам з польскай і літоўскай моў, словах, бо асобнай літары гэтага гука ў беларускай мове няма; вымаўленне часціцы НЕ і прыназоўніка БЕЗ з галосным [Е], калі яны стаяць перад словам з націскам на першым складзе, у той час як тут трэба вымаўляць галосны [Я].

Арфаэпічныя нормы, як і іншыя з'явы мовы, толькі адносна стабільныя. Вельмі марудна, але ўсё ж яны змяняюцца. Гэтыя змены абумоўлены тымі ж прычынамі, якія выклікаюць адхіленні ад вымаўленчых нормаў. Для эвалюцыі беларускага літаратурнага вымаўлення найбольшае значэнне маюць прычыны, звязаныя з уплывам дыялектнай мовы.

Удакладненне правілаў арфаграфіі таксама прыводзіць да змянення гучання слоў. Для таго каб мова магла быць зручным сродкам камунікацыі, трэба строга прытрымлівацца вымаўленчых нормаў. Парушэнні і розныя адхіленні ад нормаў літаратурнага вымаўлення, як і парушэнні арфаграфічных нормаў і правілаў, з'яўляюцца перашкодамі ў моўных сувязях, моўным кантактаванні паміж людзьмі.

Патрабавальнасць да ўзроўню культуры вуснай мовы розная і ў значнай ступені залежыць ад абставін яе ўжывання. Пры звычайнай размове людзі менш уважліва сочаць за сваім вымаўленнем, часам рэдукуюць спалучэнні зычных, дапускаюць больш поўную іх асіміляцыю, менш выразна артыкулююць гукі. Умоўна такі спосаб выказвання можна назваць *размоўным стылем*.

Пры карыстанні вуснай мовай у афіцыйных абставінах дыкцыя больш выразная, тэмп больш павольны, кожны гук павінен вымаўляцца дакладна і ясна. У гэтым выпадку карыстаюцца *поўным стылем* вымаўлення. Ён патрабуе строгасці, афіцыйнасці, таму тэкст выступлення часта рыхтуецца загадзя. Чалавеку вельмі важна не прыцягваць увагу слухачоў асаблівасцямі свайго вымаўлення, таму ён імкнецца гаварыць асабліва выразна, старанна артыкулюючы ўсе гукі. Зразумела, што пры такім спосабе вымаўлення найбольшая небяспека ў пераходзе на папітарнае чытанне.

Для авалодання нормамі літаратурнага вымаўлення неабходна ўважліва ўслухоўвацца ў яго лепшыя ўзоры і засвойваць іх. Хаця вымаўленне – працэс амаль што аўтаматычны, яго можна і трэба кантраляваць. Пры належнай трэніроўцы магчыма навучыцца добра ўсведамляць становішча языка, форму губ, мяккага паднябення і іншых органаў моўнага апарату. Пазбегнуць адхіленняў і парушэнняў правілаў арфаэпіі можна толькі ў тым выпадку, калі чалавек заўважыць (пачуе, усвядоміць) адрозненні, якія існуюць паміж узорным і сваім уласным вымаўленнем. А для гэтага вельмі важна ведаць тэхніку артыкуляцыі паасобных гукаў і характар іх зменаў у моўнай плыні.

Адпрацоўку вымаўлення асобных гукаў і іх спалучэнняў мэтазгодна пачынаць з галосных. Яны ўтвараюцца толькі голасам – паветра выходзіць з гартані свабодна, не сустракаючы на сваім шляху ніякіх перашкод. Мяняючы становішча і форму языка, губ, гэта значыць, форму і шырыню праходу для выдыхаемага паветра, галосным можна надаць розныя адценні гучання.

## Галосныя А, Э, О

Пры вымаўленні галоснага [А] рот шырока раскрыты, язык трохі падымаецца ў сваёй сярэдне-задняй частцы да паднябення. Губы не ўдзельнічаюць у фарміраванні галоснага [А].

Пры вымаўленні галоснага [Э] рот раскрыты на таўшчыню вялікага пальца, язык трохі адцягваецца назад, губы прымаюць авальную форму.

Пры вымаўленні галоснага [О] ніжняя сківіца трохі апускаецца, язык адцягваецца назад, губы прымаюць акруглую форму.

Яркай асаблівасцю беларускай мовы з'яўляецца **аканне** – супадзенне ў вымаўленні галосных [О], [Э] пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных з галосным [А], калі з іх сыходзіць націск: *ногі – нага, кол – калы, дрэмле – драмлю, вол – валы*. Такое супадзенне галосных назіраецца як у пераднаціскных, так і ў заначіскных складах.

Аднак ёсць група слоў, якія аканню не падпарадкоўваюцца. Гэта некаторыя словы з націскнымі складамі [РО], [ЛО]. Калі галосныя [О], [Э] ў аднакарэнных словах аказваюцца не пад націскам, то яны супадаюць з галосным [Ы]: *кроў – крыві, глотка – глыток, крошка – крышыць*.

Націскны [Э] захоўваецца ў шмат якіх запазычаных словах: рэгламент, *тэкстыль, рэпрадукцыя, рэзервуар, трэнажор, эканомія, экзэрсіс*.

## Галосныя І, Ы

Пры вымаўленні галоснага [І] рот раскрыты адвольна, паміж зубамі невялікая шчыліна для выдыхаемага паветра. Пярэдняя частка языка набліжаецца да верхніх бакавых зубоў.

Пры вымаўленні галоснага [Ы] губы злёгку расцягнутыя ў бакі, паміж зубамі невялікая шчыліна для выдыхаемага паветра. Язык трохі адцягнуты назад і прыўзняты да сярэдняй часткі паднябення. Ва ўсіх выпадках вымаўленне нязменнае.

1. Галосны [І] ў пачатку слова ў формах займеннікаў вымаўляецца як спалучэнне нескладовага [Й] з галосным [І] (йі): ***йіх*** *(іх),* ***йіхні*** *(іхні),* ***йім*** *(ім),* ***йіншы*** *(іншы).*

2. Такое ж вымаўленне будзе і ў тым выпадку, калі галосны [І] стаіць у сярэдзіне альбо на канцы слова пасля галоснага: ***крайіна*** *(краіна),* ***ручайіна*** *(ручаіна),* ***твайіх*** *(тваіх),* ***свайіх*** *(сваіх),* ***у майі*** *(маі), у родным* ***крайі*** *(краі), у бярозавым* ***гайі*** *(гаі).*

3. Калі пасля слова на галосны няма паўзы або яна кароткая, ненацiскны [І] ў незапазычаных словах вымаўляецца як нескладовы [Й] або як спалучэнне нескладовага [Й] з галосным [І] (йі): *паслалі* ***дайвана, дайівана*** *(да Івана);* ***вазьмійголку, вазьмійіголку*** *(вазьмі іголку); дарога* ***найвацэвічы****, дарога* ***найівацэвічы*** *(на Івацэвічы);* ***пайржышчы, пайіржышчы*** *(па іржышчы).*

4. Злучнік і часціца І пасля слова на галосны пры адсутнасці працяглай паўзы вымаўляецца як нескладовы [Й]: ***зьбярусяйпайду*** *(збяруся і пайду),* ***бацькайсын*** *(бацька і сын),* ***зямляйнеба*** *(зямля і неба).*

5. Галосны [І] пасля слоў, якія заканчваюцца на цвёрды зычны, вымаўляецца як [Ы]: ***ёнышоў*** *(ён ішоў),* ***голупыгалупка*** *(голуб і галубка),* ***лёныканоплі*** *(лён і каноплі),* ***герпысьцяг*** *(герб і сцяг),* ***безылюзій*** *(без ілюзій).*

6. У складаных словах пасля цвёрдага зычнага галосны [І] вымаўляецца як [Ы]: ***міжынстытуцкі*** *(міжінстытуцкі),* ***медынстытут*** *(медінстытут),* ***бортынжынер*** *(бортінжынер).*

## Галосны У

Пры вымаўленні галоснага [У] губы выцягваюцца ўперад, паміж імі – невялікая шчыліна, якая нагадвае трубачку. Галосны [У] ўтвараецца на выдыху, пры паднятай і адцягнутай назад спінцы языка.

1. У словах, якія абазначаюць прозвішчы, імёны, геаграфічныя назвы, галосны [У] вымаўляецца як нескладовы [Ў]: ***паўла-***

***дамірскага*** *(па Уладамірскага),* ***паўкрайіне*** *(па Украіне),* ***заўэльсам*** *(за Уэльсам).*

2. У запазычаных словах розных значэнняў галосны [У] вымаўляецца як нескладовы [Ў]: ***заўнівермагам*** *(за універмагам),* ***ваўніверсітэце*** *(ва універсітэце),* ***ваўнісон*** *(ва унісон).*

3. У сярэдзіне слова пасля знака прыпынку, калі ў прамаўленні няма паўзы або яна кароткая, галосны [У] вымаўляецца як нескладовы [Ў]: *калі з роду баравік, то* ***лесь, брацеўкошык*** *(лезь, браце, у кошык).*

## Галосныя Е, Ё, Ю, Я

Ётавыя галосныя – гэта спалучэнні двух гукаў: нескладовага [Й] і адпаведнага галоснага. Пры вымаўленні ётавых галосных рот раскрываецца не вельмі шырока і гукі больш закрытыя. Спінка языка падымаецца вышэй да паднябення, а месца над'ёму набліжаецца да пярэдніх зубоў.

Адной з асаблівасцяў беларускай мовы з'яўляецца **яканне** – супадзенне галосных [Е], [Ё] з галосным [Я] пасля мяккіх зычных у першым пераднаціскным складзе: *вецер – вятры, вёсны – вясна,* ***мёт*** *(мёд) – мядовы.*

У астатніх пераднаціскных і паслянаціскных складах [Ё] пераходзіць у гук [Е]: *веснавы, медагонка* і інш.

Галосны [Е] захоўваецца ў першым пераднаціскным складзе ў запазычаных словах: *сезон, электрон, перон,* ***беньзін*** *(бензін).*

Трэніраваць вымаўленне галосных гукаў трэба такім чынам: *бязгучна* (такое прамаўленне канцэнтруе ўвагу на правільным размяшчэнні частак моўнага апарату, што садзейнічае артыкуляцыйнай выразнасці галосных гукаў); *шэптам* (дапамагае дасягнуць не толькі артыкуляцыйнай выразнасці, але і правільна накіраваць гукавы пасыл галосных; практыкаванне трэба выконваць лёгка і спакойна, без усялякага напружання галасавых звязак); *голасам* (выконваецца актыўна, але без узмацнення).

А Э І О У Ы – бязгучна
А Э І О У Ы – шэптам
А Э І О У Ы – голасам

Е Ё Ю Я – бязгучна
Е Ё Ю Я – шэптам
Е Ё Ю Я – голасам

Уважліва прачытайце або паслухайце, затым паўтарыце ўслых прыказкі, прымаўкі, строфы вершаў, трымаючыся нормаў беларускага літаратурнага вымаўлення:

Ваша хата, ваша і праўда.
Вось табе хамут і дуга, а я табе не слуга.
Добры чалавек з гора дурнем зробіцца: ён і нясмелы, ён і няўмелы.
Каторы конь цягне, таго і паганяюць.
Круцель на круцялі едзе і круцялём паганяе.
Карчмар як камар: дзе сядзе, там і п’е.
Няма платы, няма і працы.
Калі з’елі кароўку, то з’ешце і вяроўку.
Чыя сіла, таго і праўда.
Адною рукою і вузла не завяжаш.
Змяшаўся між людзей, то і ён чалавек.
Хоць з ім, хоць без яго.
Куды людзі, туды і я.
Іх і вадою не разальеш.
Можна і не рукацца, але прывітацца.
Які госць, такое і частаванне.
Дождж у маі – будзе хлеба і на гультаі.
Мароз казаў: і ў маі тры дні маю.
Ён і паміраць час не знойдзе.
Адзін сынок Юзік і той – як гарбузік.
На лейцах і конь разумны.
Язык і да Кіева давядзе.

**З верша Янкі Купалы:**

Жыве з ім дум маіх сям'я
І сніць з ім сны нязводныя...
Завецца ж спадчына мая
Ўсяго старонкай роднаю.

**З верша Максіма Багдановіча:**

У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе,
І спеў ліецца ўсё мацней, –
Гулянку справіў пан Падвей.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.

**З верша Пімена Панчанкі:**

А я між курных сцен
Вучыўся словам матчыным,
І веру я
У праўду іх, у іх дакладны сэнс.

**З верша Аляксея Пысіна:**

Калі стамлюся некалі праз меру,
Адчуць бы мне падтрымку рук тваіх;
І я ў прыліў магутных сіл паверу,
Бо мы ўдваіх.

**З верша Міколы Аўрамчыка:**

Дыханне сушыць вільгаць твару,
Ад цеплыні ўзаемнай іх
На вопратцы знікае парай
Вільготнасць кропляў дажджавых.

Пад бляск маланкі ў гэтым стане
У ноч рабінавую ім
Аголены ўвесь свет паўстане,
Абшыты ліўнем агнявым.

**З верша Анатоля Астрэйкі:**

Ландышы!
Я іх табе вясною прынёс
З зялёнае лясное далі.
Празрыстыя крупінкі рос
Яшчэ на лісцях трапяталі.

**З верша Эдуарда Валасевіча:**

Як хораша, што ты жывеш на свеце,
Як хораша, што я цябе сустрэў!
Цяпер па-іншаму мне сонца свеціць,
І ў сэрцы радасны гучыць напеў.

**З верша Сяргея Дзяргая:**

Глыбокія, бяздонныя віры
І ручаі з празрыстаю вадзіцай,
Ссівелыя, калматыя бары,
Што жоўтаю цярушаць гліцай.

**З верша Уладзіміра Паўлава:**

Род абжыў мой і лес і пожні.
Ён і шчодры, ён і харобры.
Ён вітаецца першы з кожным:
– Дзень добры!

**З верша Максіма Лужаніна:**

Нам здаралася часта з табой разлучацца.
Неабсяжны прастор беларускіх палёў.

Нам здаралася іншай красой захапляцца,
Але праўду кажу і гатоў паспрачацца,
Што вясною нам трэба вяртацца дамоў.

**З верша Максіма Танка:**

На Украіне, дзе Дняпро
Ля кручы пеніцца бруісты,
Гудуць вячэрняю парой
Дубы – старыя бандурысты.
Гудуць дубы па-над Дняпром.
Каб лепей чуць іх спеў узнёслы,
Мы ціха міма іх плывём,
Не налягаючы на вёслы.

## Зычныя Й, Ў

Пры вымаўленні нескладовага [Й] пярэдняя частка языка злёгку прыціскаецца да ніжніх пярэдніх зубоў і адштурхоўвацца ад іх. Сярэдняя частка языка падымаецца да цвёрдага паднябення, пакідаючы вузенькі праход для выдыхаемага паветра.

Пры вымаўленні нескладовага [Ў] становішча частак моўнага апарату такое ж, як і пры вымаўленні галоснага [У], толькі гук атрымліваецца больш кароткі.

## Зычныя Т, Д

Пры вымаўленні глухога зычнага [Т] рот трохі раскрыты, пярэдняя частка языка шчыльна прыціскаецца да верхніх пярэдніх зубоў і адштурхоўваецца ад іх, выдыхнутае паветра з шумам вырываецца ў шчыліну паміж зубамі.

Пры вымаўленні звонкага зычнага [Д] артыкуляцыйнае становішча частак моўнага апарату такое ж, як пры вымаўленні глухога [Т], але гук напаўняецца голасам, які надае яму звонкасць.

1. Глухі зычны [Т] перад звонкімі зычнымі [Б], [Д] у сярэдзіне слова вымаўляецца як [Д]: ***фудбол*** *(футбол),* ***дзеддом*** *(дзетдом),* ***баскедбол*** *(баскетбол),* ***дзеддомавец*** *(дзетдомавец),* ***дзеддомаўка*** *(дзетдомаўка).*

2. Калі ў слове побач стаяць два глухія зычныя [Т], то яны вымаўляюцца як асобныя гукі: *шматтысячны, шматтонны, шматтыражны.*

3. Спалучэнне глухога зычнага [Т] з наступнай афрыкатай [Ц] утварае падоўжаную афрыкату [ЦЦ]: ***няўсякай чуццы*** *(не ўсякай чутцы) вер;* ***сіццо*** *(сітцо); тваёй* ***маццы радыўкожнай хаццы*** *(матцы рады ў кожнай хатцы).*

4. Звонкі зычны [Д] на канцы слова аглушаецца і вымаўляецца як зычны [Т]: *калі мае* ***няўлат*** *(не ў лад), то я* ***ссваім назат*** *(са сваім назад); кожны* ***гат*** *(гад) мае свой* ***ят*** *(яд); трапіў у нерат,* ***ніўзат, ніўперат*** *(ні ўзад, ні ўперад).*

5. Калі ў слове побач стаяць два звонкія зычныя [Д], то яны вымаўляюцца як асобныя гукі: *паводдаль, паддувала, самааддайны, цеплааддача, наддаць.*

6. Звонкі зычны [Д] у сярэдзіне слова перад глухімі зычнымі вымаўляецца як глухі зычны [Т]: ***атхадзіў*** *(адхадзіў),* ***брыткі*** *(брыдкі),* ***аттуль*** *(адтуль),* ***натхмар'е*** *(надхмар'е),* ***патшываць*** *(падшываць),* ***натшыць*** *(надшыць).*

7. Спалучэнне звонкага [Д] з наступнай мяккай афрыкатай [ДЗЬ] утварае падвойную звонкую афрыкату [ДЗЬДЗЬ]: ***падзьдзёўка*** *(паддзёўка),* ***бязьлюдзьдзе*** *(бязлюддзе),* ***адзьдзячыць*** *(аддзячыць),* ***паўнаводзьдзе*** *(паўнаводдзе),* ***шасьцідзесяцігодзьдзе*** *(шасцідзесяцігоддзе),* ***ладзьдзя*** *(ладдзя).*

8. Спалучэнне звонкага [Д] прыстаўкі ці прыназоўніка з наступнай афрыкатай [Ц], [ЦЬ] вымаўляецца як [ТЦ] або падвойная афрыката [ЦЦ], [ЦЬЦЬ]: ***патцэглаю*** *(пад цэглаю),* ***атцадзіць, аццадзіць*** *(адцадзіць),* ***пацьцяжарам*** *(пад цяжарам),* ***ацьцьвісьці*** *(адцвісці),* ***пацьцепліваць*** *(падцепліваць).*

9. Спалучэнне звонкага зычнага [Д] і свісцячага [С] перад глухім зычным [Т] вымаўляецца як афрыката [Ц]: ***самаўлацтва***

*(самаўладства),* ***справавоцтва*** *(справаводства),* ***пацтава*** *(падстава),* ***спацстоліна*** *(з-пад Століна).*

10. У спалучэнні звонкага зычнага [Д] і свісцячага [С] перад глухім зычным [К] звонкі [Д] аглушаецца і вымаўляецца як [Т] або афрыката [Ц]: ***атскочыць, ацскочыць*** *(адскочыць),* ***атскрэпці, ацскрэпці*** *(адскрэбці),* ***бургунцкае*** *(бургундскае) віно,* ***наваграцкі*** *(наваградскі) замак,* ***добрасусецкі*** *(добрасуседскі).*

11. У спалучэнні [ДС], дзе [Д] з'яўляецца часткаю прыстаўкі ці прыназоўніка, звонкі зычны [Д] можа вымаўляцца як [Т] або афрыката [Ц], [ЦЬ]: ***патслухоўвае, пацслухоўвае*** *(падслухоўвае),* ***нацьсьвіцязьзю*** *(над Свіцяззю),* ***патслупам, пацслупам*** *(пад слупам),* ***ацьсьцябаць*** *(адсцябаць),* ***ацьсьвярбела*** *(адсвярбела).*

12. Спалучэнне зычных [Д] і [Т] з наступнай афрыкатай [Ч] утварае падоўжаную афрыкату [ЧЧ]: ***глаччэйшы*** *(гладчэйшы),* ***дасьвеччанасьць*** *(дасведчанасць),* ***здабыччык*** *(здабытчык),* ***дысьпеччар*** *(дыспетчар),* ***аччапілася*** *(адчапілася).*

Уважліва прачытайце (бязгучна, але актыўна артыкулюючы) або паслухайце, затым паўтарыце ўслых некалькі разоў умераным тэмпам наступныя спалучэнні гукаў і тэксты:

ат, эт, іт, от, ут, ыт

т-д, т-д, т-д

д-т, д-т, д-т

та, тэ, то, ту, ты

да, дэ, до, ду, ды

тадда, тэддэ, тоддо, тудду, тыдды

датта, дэттэ, дотто, дутту, дытты

тыдытытты, тудутутту, тодототто, тэдэтэттэ, тадататта

дыцыдыдды, дутудудду, дотододдо, дэтэдэддэ, датададда

Дудар дудару дарма грае.

Пытае люты, ці добра абуты?

Грамада за аднаго – і адзін за грамаду.

Будзь здаровы на увесь год, як калядны лёд.
Каб Кандрат ды вінават – у яго Агата вінавата.
Хто роднай мовы цураецца, той і маткі сваёй адцураецца.
Як у раю ды на краю, то лепей у пекле на сяродцы.
Казаў Ігнат: адклад не ідзе ў лад.
Гаспадарлівы не надта раскінецца.
Дарагі не абед, а прывет.
Дачку аддаваць – плакаць і гадаць.
Трэба розумам надтачыць, дзе сіла не возьме.
Найсмачнейшы хлеб ад сваёй працы.
Слова сказаў – сякерай адсек.
Прывык, як дзіця да матчынай калыханкі.
Хто дужэйшы, той прудчэйшы.
Так яно і было: хто дужшы, той прудшы.
Ідучы па кладачцы на бакі не глядзі.
Хай адсохне таму рука, хто жыве з людзьмі, а сам нялюдскі.
Шчасце адчуеш, калі добра папрацуеш.
Зарабіў на соль салонага селядца пасаліць.
Паглядзім, з якога ты поля ягадка, з якога гнязда птушка.

**З верша Янкі Купалы:**

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай.

**З верша Янкі Сіпакова:**

Сэрца – то спрасаваны стагоддзямі порах,
Міна незразумелай дакладнасці:
Бывае, не разрываецца ад вялікага гора,
А ўзрываецца
Ад маленькай радасці.

**З верша Кастуся Кірэенкі:**

Ёсць аднадумцы,
А ёсць аднадудцы.
Дудуць у дуды,
Што ў адну дуду.
У аднадудцаў
Усе песні вядуцца,
Калі не пра гэту,
Дык пра тую бяду.

**З верша Алега Лойкі:**

Радзіма!
Усім карэннем – у табе,
Адной галінкай – над табою...
Чым заслужыў, калі паспеў,
Што ты мяне з крыніцаў поіш?

**З верша Янкі Сіпакова:**

Хто пытаецца ў мяне дарогу на ўсход,
хто – дарогу на захад...
Нібы раздарожжа, я паказваю
усім куды ісці,
а сам застаюся на месцы –
на гэтай зямлі, пад гэтым небам.
Занадта лёгкі для глыбіні,
занадта цяжкі для вышыні,
занадта цэласны, каб падавацца
ў які-небудзь бок...

**З верша Наталлі Арсенневай:**

Дзень згас... і чорная паводка
па шыю места заліла.
Плыве віць нанач гнёзды горад
пад бункеры, на змрочны пляц.
Ніхто не дбае, што пад тынам
муроў не ўспыхнуў маладзік.
Ад дзён, калі глядзелі ў сіню, –
мінула вечнасць, не гады.

**З верша Яўгеніі Янішчыц:**

Вось так – пад адкрытым небам – заначую,
А зоркі будуць днець у вышыні.
І праз траву гаючую адчую,
Як у зямлі багата цеплыні.

**З верша Уладзіміра Караткевіча:**

Шыпіць пласцінка. Ў сэрцы многа дум.
Кручу: "Над домам флюгер ёсць у любай".
І Шуберт падзяляе ціхі сум.
О "Зімні шлях"! Забытыя будынкі.
Забыты водар ад каханых губ.

**З верша Яўгеніі Янішчыц:**

Ёсць тайны знак у песні неўміручай.
А гукі – словы – сэрца спарышы.
Ці знацьмеш ты, о колькі рос гаручых
Змясцілася на дне маёй душы.
Хай над усім мяккі вятрэц трапеча
І молада хвалюецца жытцо.
Прашу цябе: у гэты светлы вечар
Не гавары мне праўды пра жыццё.

**З верша Паўлюка Труса:**

А ў полі кветкі адцвіталі...
Адны ўзыходзілі гусцей.
Ой песня, песня, дарагая,
Ў душы ты век не адцвіцеш!..
Не адцвіцеш і не завянеш!
І толькі ўвечары адна
Журыцца будзе на кургане
У жаўтацвецені сасна.

**З верша Максіма Багдановіча:**

Ад спёкі пышуць дахі і асфальт,
на вуліцы ўецца пыл, і грукаціць фурманка;
"Коробушку" пяе дзіцячы альт,
і надрываецца абрыдлая шарманка.

**З верша Адама Міцкевіча:**

О навагрудскі край – мой родны дом,
Праслаўлены Трамбецкага пяром,
Куды б мяне ні кінуў лёс жыццёвы,
Забыць я не змагу твае палі, дубровы.

**З версэтаў Алеся Разанава:**

Будучыня.
Не бачу яе – прадбачу,
не чую – а прадчуваю,
не ведаю – а прадведваю...
Зямля запякалася, як чорная кроў.
Шчэрацца ззаду здані.
Боязь засцерагае: у будучыні – смерць!
Адвага натхняе: у будучыні – неўміручасць!

Мы аддзіраем сябе ад зямлі.
Мы ацярушваем ад глухаты свой слых,
адтуляем ад слепаты свой зрок,
з няўцямнасці выплаўляем сваё разуменне.

Напоўніўся весткаю позірк,
а слых – цішынёю...
Рукі, што бралі,
усё аддалі, не ўтрымаўшы, і аддаюць:
раняць патайна рэчы,
якія сабе мець хочам,
і ўсё, што ні хочам – раніць...
Блаславёны, хто ўбогі...
хто плача... хто церпіць...
і хто сябе аддае беззваротна...
Звязаліся дні ў сем дзён –
кожны прычынай і вынікам кожнаму,
а за пазёмам тамлее восьмы,
і вестка адтуль:
хто сябе аддае беззваротна...

**З верша Яўгеніі Янішчыц:**

Страшна ўвечары жыць
З незагоенай ранай.
Ты сказаў: "Адбаліць.
Заставайся каханай".
Страшна ноччу мне быць
З гаркатой апантанай.
Ты сказаў: "Адшчыміць.
Заставайся каханай".
Ах, нуда – не бяда
Ў цішыні расстралянай.
На праломе ільда
Застаюся каханай.

# Зычныя С, З

Пры вымаўленні свісцячага зычнага [С] рот раскрыты адвольна, пярэдняя частка языка злёгку дакранаецца да ніжніх пярэдніх зубоў, бакі языка – да верхніх бакавых зубоў. Паміж языком і цвёрдым паднябеннем застаецца невялікая шчыліна, праз якую выходзіць выдыхаемае паветра. Прамаўляецца свісцячы зычны [С] вельмі лёгка, без націску, таму што ўзмацненне гуку выклікае празмерны свіст.

Пры вымаўленні звонкага зычнага [З] артыкуляцыйнае становішча частак моўнага апарату будзе такое ж, як і пры вымаўленні зычнага [С], толькі гук напаўняецца голасам, які надае яму звонкасць.

1. Свісцячы [С] перад мяккімі зычнымі [С], [Л], [М], [Н], [Ц], [П], [В] вымаўляецца мякка:

**сьсівеў** (ссівеў), **бясьсьмерце** (бяссмерце), **бясьсьледна** (бясследна), **восьсью** (воссю), **касьсё** (кассё), **усьсесьці** (уссесці), **церасьсядзёлак** (церассядзёлак);

**сьлёзы** (слёзы), **сьляпіць** (сляпіць), **сьлетусьлет** (след у след), **сьлізгота** (слізгота), **сьлюда** (слюда), **сьлясак** (слясак), **цесьля** (цесля);

**сьмерч** (смерч), **сьмяшыць** (смяшыць), **сьмертухна** (смертухна), **сьмецьце** (смецце), **усьмятку** (усмятку);

**цісьненьне** (ціснення), **сьнегапат** (снегапад), **сьнедаць** (снедаць), у **Дзісьне** (Дзісне), **блісьне** (блісне);

**учарсьцьвелы** (учарсцвелы), **шасьцярня** (шасцярня), **чысьцюткі** (чысцюткі), **дзьвесьце** (дзвесце), **дасьціпнасьць** (дасціпнасць), **сьцізорык** (сцізорык);

**сьпектакль** (спектакль), **сьпецыяліст** (спецыяліст), **сьпецыфічны** (спецыфічна), **сьпеўка** (спеўка), **сьпеўнік** (спеўнік), **эксьперымент** (эксперымент), **эсьперанта** (эсперанта);

**сьветапогляд** (светапогляд), **сьвердзел** (свердзел), **сьвяжэйшы** (свяжэйшы), **сьветлавокі** (светлавокі), **усясьветны** (усясветны), **Сьвержань** (Свержань).

2. Свісцячыя зычныя [С], [СЬ] перад звонкімі вымаўляюцца як [З], [ЗЬ]: ***хрэзьбіны*** *(хрэсьбіны),* ***казьба*** *(касьба),* ***нозьбіт*** *(носьбіт),* ***прозьба*** *(просьба),* ***солзьберскі*** *(солсберскі),* ***фазген*** *(фасген),* ***бейзбол*** *(бейсбол),* ***бейзбаліст*** *(бейсбаліст),* ***дызгармонія*** *(дысгармонія),* ***айзьберх*** *(айсберг).*

3. Свісцячы зычны [С] перад мяккімі зычнымі [К], [Ф], [Х] вымаўляецца цвёрда: *скеміць, скепсіс, скіба, сківіца, скінуць, сфера, сфінкс, схема,* ***схільнасьці*** *(схільнасці),* *схінацца, схімічыць.*

4. Свісцячы зычны [С] перад зычнымі [Ш], [Ч] вымаўляецца як [Ш]:

**шшытак** (сшытак), **шшараваў** (сшараваў), **рашшыраны** (расшыраны), **шшыць** (сшыць), **шшаткаваць** (сшаткаваць), **шшэрхлы** (сшэрхлы);

***шчакаць*** *(счакаць),* ***шчарнець*** *(счарнець),* ***шчытваць*** *(счытваць),* ***шчэрчваць*** *(счэрчваць),* ***шчысьціць*** *(счысціць),* ***шчэпліваціа*** *(счэплівацца).*

5. Звонкі зычны [З] перад мяккімі зычнымі [ДЗ], [Л], [З], [Б], [В], [М], [Н] вымаўляецца мякка:

**зьдзейсьніць** (здзейсніць), **зьДзімам** (з Дзімам), **безьдзяцей** (без дзяцей), **зьдзеравяненьне** (здзеравяненне), **зьдзівіць** (здзівіць), **нязьдзейсьнены** (няздзейснены);

**зьлета** (з лета), **зьлёну** (з лёну), **церазьлес** (цераз лес), **зьлёх** (злёг), **безьліч** (безліч);

**зьзяе** (ззяе), **зьзімы** (з зімы), **зьзінаю** (з Зінаю), **безьзярняці** (без зярняці), **зьзямлянкі** (з зямлянкі);

**зьбянтэжанасьць** (збянтэжанасць), **зьберагу** (з берагу), **зьбехчы** (збегчы), **зьбірацца** (збірацца), **зьбіць** (збіць);

**зьвесткі** (звесткі), **зьвераю** (з Вераю), **зьвініць** (звініць), **зьвярынец** (звярынец), **зьвязаць** (звязаць);

**зьмяя** (змяя), **церазьМір** (цераз Мір), **зьмесца** (з месца), **зьмены** (змены), **зьмяркаецца** (змяркаецца);

**зьнябыцца** (знябыцца), **зьнервавацца** (знервавацца), **зьняць** (зняць), **зьНясьвіжа** (з Нясвіжа), **церазьНёман** (цераз Нёман).

6. Звонкі зычны [З] перад мяккімі зычнымі [П], [С], [Ц] аглушаецца і вымаўляецца мякка:

**сьПетрыкава** (з Петрыкава), **бесьпячаткі** (без пячаткі), **сьПетрусём** (з Петрусём), **сьпесьнямі** (з песнямі), **сьперамогай** (з перамогай);

**сьсенажаці** (з сенажаці), **сьсемінара** (з семінара), **бесьСяргея** (без Сяргея), **бесьсярпа** (без сярпа), **церасьСьвіслач** (цераз Свіслач);

***сьцеста** (з цеста), **сьцёскам** (з цёзкам), **сцырка** (з цырка), **сьцесьцем** (з цесцем), **бесьцьвіка** (без цвіка).*

7. Звонкія зычныя [З], [ЗЬ] на канцы слова аглушаюцца і вымаўляюцца як [С], [СЬ]: ***грась** (гразь), **мась** (мазь), **злась** (злазь), **вос** (воз), **вёс** (вёз).*

8. Звонкі зычны [З] перад глухімі [Ш], [Ч] вымаўляецца як [Ш]:

**шшафы** (з шафы), **церашШклоў** (цераз Шклоў), **шшахматыстам** (з шахматыстам), **шшоўку** (з шоўку), **церашшашу** (цераз шашу);

**грушчык** (грузчык), **шЧэрвеня** (з Чэрвеня), **шчабору** (з чабору), **шчэмпіёнам** (з чэмпіёнам), **шЧарнігіным** (з Чарнігіным).

9. Звонкі зычны [З] перад цвёрдымі глухімі зычнымі [К], [Х], [Т], [С], [Ц], [П] аглушаецца і вымаўляецца як [С]:

**падмаска** (падмазка), **бліска** (блізка), **скалена** (з калена), **скнішкі** (з кніжкі), **бясклею** (без клею), **сканапель** (з канапель), **скасьцёла** (з касцёла);

**схваробаю** (з хваробаю), **схаты** (з хаты), **схоладу** (з холаду), **схвалі** (з хвалі), **схвоі** (з хвоі), **схутара** (з хутара);

**ствайім** (з тваім), **стым** (з тым), **статам** (з татам), **сТарасам** (з Тарасам), **стабой** (з табой), **сторбаю** (з торбаю), **сТалачына** (з Талачына);

**ссалам** (з салам), **ссошкаю** (з сошкаю), **бяссолі** (без солі), **ссэрца** (з сэрца), **ссынам** (з сынам), **ссырога** (з сырога), **ссырадою** (з сырадою);

**сцарквы** (з царквы), **сцэглы** (з цэглы), **сцыркулем** (з цыркулем), **сцырульні** (з цырульні), **ссрэбра** (з срэбра);

**спустога** (з пустога), **споля** (з поля), **церасплот** (цераз плот), **беспастуха** (без пастуха), **сПружанаў** (з Пружанаў), **церасПарыж** (цераз Парыж).

10. Звонкі зычны [З] перад зычным [Ж] і афрыкатай [ДЖ] вымаўляецца як [Ж]:

**жжуравін** (з журавін), **церажЖлобін** (цераз Жлобін), **жжыта** (з жыта), **мажжачок** (мазжачок), **бежжалеза** (без жалеза);

**бражджаць** (бразджаць), **заежджаны** (заезджаны), **жджунгляў** (з джунгляў), **жджазаркестрам** (з джаз-аркестрам), **церажДжакарту** (цераз Джакарту), **яжджалы** (язджалы).

11. Звонкі зычны [З] перад мяккім зычным [Г] вымаўляецца цвёрда: ***згіп** (згіб), з геаграфіі, з гербам, з гейзера, без Генадзя.*

12. Звонкі зычны [З] перад мяккімі глухімі [К], [Х] аглушаецца і вымаўляецца як свісцячы [С]:

**сКемерава** (з Кемерава), **сКёльна** (з Кёльна), **скефальлю** (з кефаллю), **скіраўнікóм** (з кіраўніком), **церасКенію** (цераз Кенію), **скеліха** (з келіха);

***сxітрынкаю** (з хітрынкаю), **схібамі** (з хібамі), **сХеменгуэем** (з Хеменгуэем), **схеўраю** (з хеўраю), **сХелемскім** (з Хелемскім), **схіньдзі** (з хіндзі), **церасХерсон** (цераз Херсон).*

Уважліва прачытайце або паслухайце, затым паўтарыце ўслых некалькі разоў умераным тэмпам наступныя спалучэнні гукаў і тэксты:

ас, эс, іс, ос, ус, ыс
са, сэ, сі, со, су, сы
с-з, с-з, с-з
з-с, з-с, з-с
се, сё, сю, ся
зе, зё, зю, зя
сасса, сэссэ, сіссі, соссо, суссу, сыссы
зазза, зэззэ, зіззі, зоззо, зуззу, зыззы

сазасáса, сэзэсэ́сэ, сізісісі, созососо, сузусусу, сызысысы
засазаза, зэсэзэзэ, зісізізі, зосозозо, зусузузу, зысызызы
сессе, сёссё, сюссю, сяссся
зеззе, зёззё, зюззю, зяззя
сезесéсе, сёзёсёсё, сюзюсю́сю, сязяся́ся
зесезéзе, зёсёзёзё, зюсюзю́зю, зясязя́зя

Згода збірае, нязгода растрасае.
Сем седакоў – не воз, абы конь павёз.
Ідзі з людзьмі, то не згубішся.
Калі раіш суседу, то абмазгуй да следу.
Чаго спяшацца: хутчэй, як барзджэй, не будзе.
Бегла ліска каля лесу блізка: ані яе дагнаць, ані следу спазнаць.
Ніля блізка, гніся бабка нізка. Уставай раненька ды жні да пазненька.
Нясмелага з няўмелым не распазнаеш.
З печы, з полу - усе да столу.
Дзе толькі мужык з слаўцом, там за ім пуга з вузлом.
Сей жыта ў прысак, авёс у гразь, то будзеш князь.
Барзджэй то барзджэй, але не хапайся дужа.
Ез Пракопам і без Пракопа – ўсё роўна ні стуль, ні ссюль.
Прайдзісвет не пройдзе свет – у пастку ўваліцца.
Дзе просьбаю, дзе грозьбаю, але разжыўся на зуб палажыць.
Не смейся з людзей – смейся з сябе ці з сваіх дзяцей.
Свой сячыся, рубайся, а чужы не мяшайся.
Звер не звер, але чорт яму вер: віляе хвастом, а вые ваўком.
Конпцы смешкі, а мышцы слёзкі.
Што робіцца наспех, тое выходзіць курам на смех.
Ад вялікага смеху да слёз недалёка.

З языком, як з мячом: завіхайся, але не спяшайся.
Не хочаш у маладосці працаваць, будзеш на старасці з торбачкай танцаваць.
Хто косіць, хто не косіць, а есці ўсякі просіць.
З дзеткамі гора, а без дзетак удвая.
З чужога каня і ў гразі ссядаюць.
Работа не бясчэсціць чалавека, а корміць і поіць яго.
Бяда без дзяцей, але і бяда з дзецьмі.
Не бойся звяглівага, а бойся куслівага.
Ці з перцам, ці не з перцам – абы з шчырым сэрцам.
Ад спеху нарабіў смеху.
І з сынамі трасуць сумамі.
Сляпой курыцы і жвір – пшаніца.
Сцеражонага і Бог сцеражэ.
Лепей хлеб з вадою, як пірог і мёд з бядою.
Быў бы хлеб, а мышы збягуцца.
Сады садзі і ў маладосці і ў старосці.

**З верша Якуба Коласа:**

Дзесь цвіркун без перастанку
Цягне сумную спяванку.

**З мініяцюры Янкі Брыля:**

Сем семярэй, сем старых свіней, свінка, свінок,
Свінчын браток і адно парасятка.

**З казкі “Каваль – асілак”:**

Ляціць Змей над зямлёю, а за ім такая завіруха ўзнімаецца, што ўсе дрэвы з карэннем выдзірае з зямлі.

**З верша Алега Лойкі:**

Выпадковы, нязнаны, няпрошаны госць,
Ад'язджаю, ні з чым пакідаю
Край, які не забыў, што мінулае ёсць.
Што ноч будучыні – не пустая.

**З верша Рыгора Барадуліна:**

Жытло маёй душы
Заселена табою,
Святло маёй тугі
Зацеплена табой.
Світае мне ўначы,
Я высветлен табою.
Не пакідай жытла,
Святло маёй тугі...

**З верша Наталлі Арсенневай:**

Плылі, плылі думы
над сцерплай Беларуссю.
Змяталі след па тых,
што мусілі пайсці.
З пабітых шыб, з пустых сяней
глядзела вусцішш.
А ліпень, хоць бы што,
іх сонцам залаціў.
Пад хатай Дзянісоў –
як мур быллё буяла
ды ластаўкі крыллём
чыркалі цішыню.
І веяла з пустых кутоў
старой навалай
і новаю,
якой – і ім не абмінуць.

**З верша Пятруся Макаля:**

Сам да цябе прыйшоў пакорна я
З няўтульнасці, як з вечнае разлукі,
У кайданы твае, любоў мая,
Падставіўшы добраахвотна рукі.
Я без цябе – без рэчышча вада,
Якой ніколі не сустрэцца з морам.
Багінямі да нас прыходзяць жонкі
З нявест у шлюбнай квецені вясны.
Звініце ж, абручальныя пярсцёнкі,
Кахання залатыя кайданы.

**З верша Наталлі Арсенневай:**

Вартуюць зрэбны змрок
счарнелыя руіны –
мінулых, жорсткіх дзён
нязжатае дабро.

**З пункціраў Алеся Разанава:**

Нікога,
хто ў гэты свет прыходзіць,
не абыходзіць доля:
атрымліваюць усе без вынятку
два найвялікшыя падарункі –
жыццё і смерць.

Спасцігаю і слова, і справу,
але ўсім жыццём даводзіцца спасцігаць,
што свет, які ты намерваешся здабыць,
ты ўжо здабыў і так –
самім з`яўленнем на свет.

Спазніўся ўстаць
і спазніўся легчы,
спазніўся пачаць работу
і спазніўся скончыць –
і сталі мяняцца месцамі дні і ночы,
вынікі і прычыны,
і я апынуўся насупраць самога сябе.

Калісьці мы разумелі,
што такое дабро,
што такое зло,
і напісалі пра гэта кнігі.
Цяпер мы разумныя тым,
што напісана ў кнігах,
але самі дабро ад зла
адрозніць не можам.

Жыву між зямлёю і небам,
каб стаць з цягам часу
асобна зямлёй
і небам.

Іщоў па зямлі,
еў яблыкі,
зярняты збіраў
і высейваў у дол...
Калі прайду ўсю зямлю –
вярнуся
ў квітнеючы сад.

**З паэмы Міколы Гусоўскага:**

Вось і прыйшлі мы. Цяпер уявіце паляну.
Зубр на паляне стаіць нерухомы, як быццам
Роздуму поўны над светам і зменлівым лёсам.
Будзем спяваць аб адным, хоць у вершах часамі
Можна сустрэць і чароды аднолькавай масці.
Дзіўнага шмат выпадала пабачыць мне ў лесе,
Большага ж дзіва, чым тое, калі звар'яцела
Зубр на ахвяру нясецца з падскокам, не бачыў.
Страхаў жа бачыў нямала. Аднойчы у дубровс
Звер падхапіў жарабка з седаком і рагамі
Так шыбануў, што сядок апынуўся ў абдымках
Дуба галлістага – там і знайшоў паратунак.

**З паэмы Паўлюка Труса:**

Падаюць сняжынкі –
дыяменты-росы,
Падаюць бялюткі
за маім акном...
Расчасалі вішні
шоўкавыя косы
І ўранілі долу
снегавы вянок.
Адхінае вечар
тонкія мярэжы,
На акне альвасы
дагарэлі ў сне.
А ў душы квяцістасць
і такая свежасць,
І з вачэй усмешкі
сыплюцца на снег.

**З верша Максіма Багдановіча:**

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.

Глянь іншы раз на яе, – у расстанні
Там з ёй зліём мы пагля́ды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,
Глянь іншы раз на яе...

**З верша Рыгора Барадуліна:**

Свет захлынаўся ад святла.
Ступаў я ў твой гарачы след.
Была вясна,
І ты была.
Як снег, кіпеў вішнёвы цвет.
Не ведаў я ні звад,
Ні здрад.
Сузор'яў распазнаў сакрэт.
Твой смех звінеў.
Яснеў пагля́д вясновы,
Як вішнёвы цвет...

**З верша Наталлі Арсенневай:**

Вось я
шнур пацерак з медзі
з шыі зняла без прынукі:
хай нас асенняй дакукай
не харашаць
і не параняць.

**З паэмы Адама Міцкевіча:**

Дзікай спакусніцай прычараваны,
Боль адчуваеш ты сэрца,
Блудзіш, пакінуты і ашуканы.
Дзеўчына ж недзе смяецца!

Хіба патрэбна блукаць тут з журбою
Аж да праменняў світальных?
Лепей, юнача, мы будзем з табою
Плаваць у водах крышгальных.

## Зычныя Ш, Ж

Пры вымаўленні глухога зычнага [Ш] паміж зубамі невялікая шчыліна, шырокі канец языка ўзнімаецца да цвёрдага паднябення. Гук утвараецца ў выніку трэння выдыхаемага паветра аб цвёрдае паднябенне і суправаджаецца лёгкім шумам.

Пры вымаўленні звонкага зычнага [Ж] паміж зубамі невялікая шчыліна, шырокі канец языка больш, чым пры вымаўленні шыпячага [Ш], загінаецца да цвёрдага паднябення, галасавыя звязкі і кончык языка вібрыруюць.

У беларускай літаратурнай мове зычныя [Ш], [Ж] заўсёды вымаўляюцца цвёрда.

1. На канцы слова звонкі зычны [Ж] аглушаецца і вымаўляецца як [Ш]: ***гуш*** *(гуж),* ***нядуш*** *(не дуж),* ***еш*** *(еж),* ***рэш*** *(рэж),* ***паўзьбярэш*** *(паўзбярэж),* ***уздоўш*** *(уздоўж).*

2. У спалучэнні зычных [ЖСК] пры вымаўленні выпадае звонкі зычны [Ж]: ***сураскі*** *(суражскі),* ***печанескі*** *(печанежскі),* ***калескі*** *(калежскі),* ***Белавеская*** *(Белавежская) пушча,* ***Нясьвіскі*** *(Нясвіжскі) замак,* ***рыскі*** *(рыжскі) бальзам.*

3. У спалучэнні зычных [ШСК] пры вымаўленні выпадае шыпячы [Ш]: ***латыскія*** *(латышскія) стрэлкі,* ***манаская*** *(манашская) сутана,* ***чэскае*** *(чэшскае) шкло.*

4. Спалучэнні [ШС], [ЖС] паміж галоснымі вымаўляюцца як падоўжаны мяккі [СЬСЬ]: ***вучысься, мучысься, трымаесься, бо дзеш дзенесься*** *(вучышся, мучышся, трымаешся, бо дзе ж дзенешся); калі* ***топісься*** *(топішся),* ***той за брытву хопісься*** *(то і за брытву хопішся); каля агню ходзячы* ***апячэсься*** *(апячэшся), каля вады –* ***намочысься*** *(намочышся);* ***нявасься*** *(не важся) чапаць яго.*

5. Спалучэнне звонкага зычнага [Ж] і афрыкаты [ДЖ] у сярэдзіне слова вымаўляецца як два асобныя гукі – [Ж] і [ДЖ]: ***даж-джавік*** *(дажджавік),* ***маж-джэр*** *(мажджэр),* ***драж-джаваньне*** *(дражджаванне),* ***задаж-джылася*** *(задажджылася),* ***бездаж-джоўе*** *(бездажджоўе),* ***бяздож-джыца*** *(бяздожджыца).*

На канцы слова спалучэнне [ЖДЖ] аглушаецца і вымаўляецца як [ШЧ]: ***дошч*** *(дождж).*

6. Пасля слова на галосны часціца [Ж] аглушаецца і вымаўляецца як [Ш] толькі ў тым выпадку, калі яна стаіць перад глухім зычным: ***дзеш ты дзенесься*** *(дзе ж ты дзенешся),* ***прыйшлаш*** *(прыйшла ж) яна,* ***каліш*** *(калі ж) тое будзе,* ***былош*** *(было ж) пустое,* ***кахаюш*** *(кахаю ж) Кацярыну.*

7. У сярэдзіне слова перад глухімі звонкі зычны [Ж] аглушаецца і вымаўляецца як [Ш]: ***цяшка*** *(цяжка),* ***сьнешкі*** *(снежкі), на* ***берашку*** *(беражку),* ***мушчына*** *(мужчына),* ***дарошка*** *(дарожка),* ***нябошчык*** *(нябожчык),* ***перабешчык*** *(перабежчык).*

Уважліва прачытайце або паслухайце, затым паўтарыце ўслых некалькі разоў умераным тэмпам наступныя спалучэнні гукаў і тэксты:

ш-ж, ш-ж, ш-ж

ж-ш, ж-ш, ж-ш

аш, эш, іш, ош, уш, ыш

ша, шэ, шо, шу, шы

жа, жэ, жо, жу, жы

шажжа, шэжжэ, шожжо, шужжу, шыжжы

жашша, жэшшэ, жошшо, жушшу, жышшы
сашажа, сэшэжэ, сошожо, сушужу, сышыжы
зажаша, зэжэшэ, зожошо, зужушу, зыжышы

За справу бярэшся – не бойся і не хваліся.

Вясну хваляць за дажджы і сонца, а лета – за снапы і вазы.

Добра будзе – напрацуешся і накрасуешся. Кепска будзе – нагаруешся і накукуешся.

Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбы не зловіш не намачыўшыся.

Свая сярмяжка нікому не цяжка.

Санлівага не дабудзішся, лянівага не дашлешся і не дажджэшся.

Пасля дожджыку ўсё расце як на дражджах.

Калі да дваццаці работу рабіць не навучышся, то да сівой барады намучышся.

Каб не ежка, ды не адзежка, была б грошай поўная дзежка.

Горш, калі баішся: і ліха не мінеш, і надрыжышся.

На чужы каравай рот не разявай, караваю не праглынеш, а рот да вушэй раздзярэш.

Калі ўлетку на сонцы не напячэшся, то ўзімку з холаду натрасешся.

Дружба дружбаю, а служба службаю.

Хто парасё ўкраў, таму ўвушшу пішчыць.

Гарошку хваліў і поп, і Ярошка, і я трошка. Хвалілі патрохі, патрошку, ды перахвалілі Гарошку.

Жыць, пажываць ды дабро нажываць.

**З народнай песні:**

Дожджык, дожджык дробненькі,
Будзь жа, дожджык, добранькі.

**З верша Уладзіміра Караткевіча:**

Халодныя ад дождыкаў вяргіні,
Халодны ўжо ад кропляў дажджавых
Сумуе яблык на паўголым дрэве:
Забылі.

**З паэмы Міколы Гусоўскага:**

Вось ён – бізон ваш, што ў нас называецца зубрам!
Масці паджарай, як мешанка бурай і чорнай,
Быццам з вякоў у вякі пераходзіў праз горны
І гартаваўся, сабраўшы адценні стагоддзяў.

**З балады Адама Міцкевіча:**

Тата казаў мне, што словы мужчыны
Не заслугоўваюць веры,
Бо хоць у словах і спеў салаўіны,
Ды ў сэрцы ліса намеры.
Злога падману я вельмі баюся,
Здрады каварнай, мой дружа...
Можа, я к просьбе тваёй і схілюся,
Толькі ці любіш ты дужа?

**З верша Алега Лойкі:**

Дождж манатонны і густы –
Сум, нібы дождж, і дождж як сум,
Намоклі стрэхі і шчыты,
У сэрцы цяжка іх нясу.

Куды ўцячы ад горкіх дум?..
Паромшчык, мо паможаш ты?..
Ды сум, як дождж, і дождж, як сум,
На гэтым беразе і тым.

**З верша Янкі Сіпакова:**

Лінія гарызонта.
У дзяцей пераймаюць дарослыя
Гэтую зманлівую, як матчына песня, нітку,
Каб адкрыць невядомае
Тое, што ёсць за домам;
Каб за ніткай ісці без стомы,
Некалі выйшаўшы з дому;
Каб не заседжвацца дома –
З падарожжаў вяртацца дадому.
І каб прыносіць дадому
Сабраныя зоркі за домам.
Ах, гэтая зменлівая нітка!
Вечна яна дражніцца новымі небасхіламі!

**З верша Яўгеніі Янішчыц:**

У добры шлях! У добры час!
Трывога адкалосіцца.
Смяешся ты – і я ў адказ,
Хоць смех на слёзы просіцца.

**З верша Янкі Сіпакова:**

Калі дажджуеш у самоце
Пад шэпт суцішаны дажджын,
Здаецца, з імі ты ў палёце,
А не вось тут – адзін, адзін.

Здаецца, з імі – ёсць патрэба! –
Ляціш, вяртаешся здаля
З халоднае краіны Неба
Ў краіну цёплую – Зямля.
Вяртаешся – дамоў, як птушкі,
Ляціш, як вырай, на сады;
І вольным лётам пазагушканы,
Вясенні́м небам пахнеш ты.
Дажджыны шэпчуцца наўкола,
Паспешна крыллем шапацяць.
А з імі ты ляціш, вясёлы,
Да ніў – зялёнага жыцця.

**З верша Яўгеніі Янішчыц:**

Ні гукам, ні званком не адгукнешся.
Атуліць колкай памяці сувой.
Праз лёс мой
Ты, як бура пранясешся.
І дождж размые воблік твой.

**З пункціраў Алеся Разанава:**

Калі прыходжу на раздарожжа
і чытаю на ка́мені
надпісы – перасцярогі –
разумею,
што чалавеку нічога не застаецца,
як, зрэшты, выбраць
тую дарогу, якая спакон веку чакае, –
дарогу ўгару.

**З верша Яўгеніі Янішчыц:**

Калі нячутна снег ляціць над светам
І доўга не праходзяць маразы,
Ты нібы дар з'яўляешся паэту,
Здзіўляючы да чуйнае слязы.
　　Не адхіліць бы кволую былінку,
　　Не размяняць на дробязь пачуцця!
　　О, гэта ты – нязначная іскрынка:
　　Метафара сумнення і жыцця.

**З верша Янкі Сіпакова:**

– Бачыш, дожджык на лузе ідзе,
Дажджанятак за рукі з сабою вядзе.
– Дзе?
Дажджаняткі? То ж буйныя кроплі,
Уцякайма, пакуль не прамоклі.

## Зычныя ДЖ, Ч

Пры вымаўленні зацвярдзелай звонкай афрыкаты [ДЖ] ро раскрыты адвольна, язык шчыльна прыціскаецца да верхніх пя рэдніх зубоў і з сілай адштурхоўваецца ад іх, выдыхаемае павет-ра з шумам вырываецца ў шчыліну паміж зубамі.

Пры вымаўленні глухой афрыкаты [Ч] становішча частак моўнага апарату такое ж, як пры вымаўленні афрыкаты [ДЖ], толькі ўтвараецца [Ч] без удзелу голасу.

1. Вымаўленне афрыкаты [ДЖ] як звонкага зычнага [Ж] – парушэнне норм беларускага літаратурнага вымаўлення: ***джас*** *(джаз), джазавы, джала, джаліць, джунглі, джынсы, джын, джып, джэм, Джамбул Джамбаеў.*

2. У словах, дзе [Д] – гук прыстаўкі, а [Ж] – гук кораня, трэба вымаўляць два асобныя зычныя гукі, а не афрыкату [ДЖ]: ***пад-жаць*** *(паджаць),* ***ад-жыў*** *(аджыў),* ***пад-жылкі*** *(паджылкі),*

***пад-жаўціць*** *(паджаўціць),* ***пад-жартаваць*** *(паджартаваць),* ***ад-жывіць*** *(аджывіць),* ***ад-жлукціць*** *(аджлукціць).*

3. На канцы слова звонкая афрыката [ДЖ] аглушаецца і вымаўляецца як [Ч]: ***калеч*** *(каледж),* ***катэч*** *(катэдж),* ***Джорч*** *(Джордж),* ***брыч*** *(брыдж).*

4. Спалучэнне глухіх зычных [ЧЦ] вымаўляецца як падоўжаная зацвярдзелая афрыката [ЦЦ]: ***пазвыццы*** *(па звычцы),* у ***хустаццы*** *(хустачцы),* у ***спадніццы*** *(спаднічцы),* у ***сароццы*** *(сарочцы),* у ***чашаццы*** *(чашачцы),* у ***кофтаццы*** *(кофтачцы).*

Уважліва прачытайце (бязгучна, але актыўна артыкулюючы) або наслухайце, затым паўтарыце ўслых некалькі разоў умераным тэмпам наступныя спалучэнні гукаў і тэксты:

т-ш, т-ш, т-ш
тш, тш, тш, тш
тштш-ч, тштш-ч, тштш-ч
тша, тшэ, тшо, тшу, тшы
тшач, тшэч, тшоч, тшуч, тшыч
ча, чэ, чо, чу, чы
ач, эч, оч, уч, ыч
тшачча, тшэччэ, тшоччо, тшуччу, тшыччы
ча́чча, чэччэ, чоччо, чуччу, чыччы
чачачаа́ча, чэчэчэ́ччэ, чочочо́ччо, чучучу́ччу, чычычы́ччы
ч-дж, ч-дж, ч-дж
дж-ч, дж-ч, дж-ч
джа, джэ, джо, джу, джы
джача, джэчэ, джочо, джучу, джычы
чаджа, чэджэ, чоджо, чуджу, чыджы
джачча, джэччэ, джоччо, джуччу, джыччы
чаджджа, чэджджэ, чоджджо, чуджджу, чыджджы
джаджджа, джэджджэ, джоджджо, джуджджу, джыджджы

Шэршань раптам так джгануў, ох балюча, гад, джгануў.
Дзеці выскачылі з-за саду і паджгалі ў лес без агляд кі.
Калі добра ўзарэш, то і ўраджай збярэш.
Вясна кажа: ураджу, восень кажа: яшчэ пагляджу.
Цякучае нацячэ, бягучае набяжыць.
Будзе дождж ісці, будзе хлеб расці.
Сціснуліся, як селядцы ў бочцы.
Чалавеча, чалавеча, чаму часам скачаш, а часам плачаш?
Дзяўчынка Чарнічка мае чатыры чатырнічкі: на кожным чатырнічку па пяці пяцярнічкаў.
Ашчаджаўся, ашчаджаўся, хлеб з'еў, а квас астаўся.
Рыбак рыбачыў, рыбачыў, а рыбы так і не бачыў.
Ні чуткі, ні прачуткі, а чатыры чорныя карчы чарнелі чорнымі чубамі.
Ніхто не бача, як сірата плача, а ўсякі бача, як сірата скача.
Быць бычку на лычку, а цялушцы на вяровачцы.
Не чын чалавека падвышае, а чалавек чын.
Каб у дамочку, у садочку, у хлявочку, у полечку ўсё радзіла і пладзіла.

**З верша Васіля Віткі:**

Хвошча, хвошча дождж.
Воўк схаваўся ў хвошч.
Сам пад хвашчом,
А хвост пад дажджом.

**З верша Якуба Коласа:**

Няма на іх, вужак, паморку,
Вось на такіх чартоў лазатых,
На гэтых джынджыкаў праклятых.

**З паэмы Міколы Гусоўскага:**

Княжацкі ўказ пад пагрозай адказнасці строгай
Не дазваляе знішчаць ні зубрыцаў, ні моладзь
І ашчаджае тым самым багацці лясныя.
Скарбы свае нашы людзі на золата нават
Не прамяняюць. Здаўна іх жыццё навучыла:
Нашы лясы – гэта нашых даброт і багацця
Невычарпальны калодзеж.

**З верша Васіля Віткі:**

Тачу, тачу, абточваю,
Начыста заточваю,
Канцы з канцамі сточваю.
Калі што не даточана,
А можа ператочана, –
Хутчэй, хутчэй даточвайце
І не перашлочвайце.

**З верша Эдзі Агняцвет:**

Джганула штосьці Нінку –
бо асу ўзяла за спінку.
Нінка, пэўна, і не знала,
што кусака мае джала.

**З версэтаў Алеся Разанава:**

Я там ўжо быў,
і гэта ўжо рабіў,
і тое ўжо зведаў... –
стаю сярод белага дня
з жыццём ашчаджоным
для невядомай справы,
для невядомай думкі
і для невядомага дня.

**З верша Васіля Віткі:**

Скача чапля па балоце,
Чачотка – у чароце.
А чубаты чачот
Топча, топча агарод.
    Я чачота падпільную,
    Чапялою пачастую.
Чаплі – шызапёрцы –
Неразлучнай парачцы
Паднясу па чарачцы
Чарнічнага кісялю.
    Дам цёгачцы чаплі
    Кавалачак вафлі.
    А чачотцы – чачавіцы,
    Табе ж, чачот, – чамярыцы.

**З версэтаў Алеся Разанава:**

Надакучыла хадзіць паводле сваёй хады,
надакучыла ездзіць паводле правілаў
    дарожнага руху,
надакучыла лятаць паводле законаў
    аэрадынамікі...
Паклаўшыся на зямлю,
Гляджу ў неба –
асвойваю думкай неабсяжнасць.

**З верша Уладзіміра Караткевіча:**

Па-над шчыраю Шчарай, над шчодраю Шчарай,
Па-над плынню чырвонай і рыжай травой
Плачуць чорныя цені на фоне пажару,
Моляць кані аб кроплі вады дажджавой.

## Зычныя ДЗ, Ц

Пры вымаўленні звонкай афрыкаты [ДЗ] рот раскрыты адвольна, пярэдняя частка языка прыціскаецца да верхніх пярэдніх зубоў і адштурхоўваецца ад іх, выдыхнутае паветра з шумам вырываецца ў шчыліну паміж зубамі.

Пры вымаўленні глухой афрыкаты [Ц] становішча частак моўнага апарату такое ж, як і пры вымаўленні афрыкаты [ДЗ], толькі ўтвараецца [Ц] без удзелу голасу.

1. Вымаўленне звонкай мяккай афрыкаты [ДЗЬ] як [ДЬ] будзе парушэннем нормы беларускага літаратурнага вымаўлення: ***дзьве*** *(дзве),* ***дзьверы*** *(дзверы), дзея, дзевачка, дзеванька,* ***дзет*** *(дзед),* ***дзетка*** *(дзедка), дзедзіч,* ***дзенебуць*** *(дзе-небудзь),* ***дзенідзе*** *(дзе-нідзе), дзесьці, дзесяць.*

2. Звонкая афрыката [ДЗ], [ДЗЬ] на канцы слова аглушаецца і вымаўляецца як [Ц], [ЦЬ]: ***ксёнц*** *(ксёндз),* ***непагаць*** *(непагадзь),* ***мядзьвець*** *(мядзведзь),* ***сяць ды ець*** *(сядзь ды едзь).*

3. У словах, дзе зычны [Д] з'яўляецца часткай прыстаўкі, а [З] – гукам кораня, трэба вымаўляць два асобныя зычныя, а не афрыкату [ДЗ]: ***ад-завіся*** *(адзавіся),* ***пад-зямельле*** *(падзямелле),* ***ад-званіць*** *(адзваніць),* ***над-зем'е*** *(надзем'е),* ***пад-залісты*** *(падзолісты),* ***пад-зорная*** *(падзорная) труба,* ***ад-зычыць*** *(адзычыць).*

4. Звонкая мяккая афрыката [ДЗЬ] перад глухімі зычнымі вымаўляецца як [ЦЬ]: ***някосіць Фецька*** *(не косіць Федзька), бо ў торбе* ***рэцька*** *(рэдзька).*

5. Цвёрдая звонкая афрыката [ДЗ] сустракаецца толькі ў асобных словах, у іншамоўных геаграфічных назвах і прозвішчах: *дзынкаць, дзвынкаць, дзвынкнуць,* ***дзыліньканьне*** *(дзылінканне), дзылінкнуць, дзылінкаць, дзын-дзын, дзот, дзындра, вандзэлак, пэндзаль, нэндза, завэдзгаць, Дзаўджыкаў, Гудзонаў заліў* і іншых.

6. Афрыката [Ц] перад мяккім зычным [ВЬ] вымаўляецца мякка: ***цацьвяртак*** *(чацвяртак),* ***збуцьвелы*** *(збуцвелы),* ***пазнацьвет*** *(пазнацвет),* ***зацьвярдзелы*** *(зацвярдзелы),* ***цьвіркун***

*(цвіркун),* ***чацьвер*** *(чацвер),* ***цьвінтар*** *(цвінтар),* ***цьвярозы*** *(цвярозы).*

7. Глухая афрыката [Ц], [ЦЬ] перад звонкімі зычнымі [Г], [Б], [БЬ] вымаўляецца як [ДЗ], [ДЗЬ]: ***маладзьба*** *(малацьба),* ***жанідзьба*** *(жаніцьба),* ***барадзьба*** *(барацьба),* ***клядзьба*** *(кляцьба),* ***барадзьбіт*** *(барацьбіт),* ***сьпедзгрупа*** *(спецгрупа), хвароба* ***Альдзгеймера*** *(Альцгеймера).*

Уважліва прачытайце (бязгучна, але актыўна артыкулюючы) або паслухайце, затым паўтарыце ўслых некалькі разоў умераным тэмпам наступныя спалучэнні гукаў і тэксты:

т-с, т-с, т-с, т-с, т-с, т-с

тс-ц, тс-ц, тс-ц, тс-ц, тс-ц

тсац, тсэц, тсіц, тсоц, тсуц, тсыц

ац, эц, іц, оц, уц, ыц

ца, цэ, ці, цо, цу, цы

цатсац, цэтсэц, цітсіц, цотсоц, цутсуц, цытсыц

ець, ёць, юць, яць

це, цё, цю, ця

дзе, дзё, дзю, дзя

цедзе, цёдзё, цюдзю, цядзя

дзеце, дзёцё, дзюцю, дзяця

цедзьдзе, цёдзьдзё, цюдзьдзю, цядзьдзя

дзецьце, дзёцьцё, дзюцьцю, дзяцьця

цецецецьце, цёцёцёцьцё, цюцюцюцьцю, цяцяцяцьця

дзедзедзедзьдзе, дзёдзёдзёдзьдзё, дзюдзюдзюдзьдзю, дзядзядзядзьдзя

цецеце-дзецьце, цёцёцё-дзёцьцё, цюцюцю-дзюцьцю, цяцяця-дзяцьця

дзедзедзе-цедзьдзе, дзёдзёдзё-цёдзьдзё, дзюдзюдзю-цюдзьдзю, дзядзядзя-цядзьдзя

Хай мядзведзь кудзелю прадзець, а мы будзем з людзьмі сядзець.

Пытае марац: ці цёпла ў палец?

Пабудзе ў вадзе, а не мокры нідзе.

Няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы.

Зямелька – маці наша: і корміць, і поіць, і адзявае.

Адзін жыве – як хочацца, другі – як прыйдзецца.

Як пра цябе чуюць, так пра цябе і мяркуюць.

Дзятлы дзюбамі дзяўбуць дрэва. Дзяўблі-дзяўблі,
дзяўблі-дзяўблі, ды так дупло і выдзяўблі.

Як папу ўдаецца, дык і пападдзя смяецца.

Сядзіць ды на неба глядзіць: туды цень, сюды цень, абы прайшоў дзень.

Ці табе заяц, а мне баран, ці мне баран, а табе заяц. То так і выходзіць: мне баран, а табе ўсё-такі заяц.

Будзь што будзе! Будзе ж толькі тое, што будзе.

Хвасць хлеба не дасць.

Дзяды і дзядзькі на дзядзінцы дзялілі дзялянкі.

– Цецярук, цецярук, дзе твая цяцера?

– Мая цяцера цецеранятам цеста месіць.

Хоць мядзведзяў не вадзілі, ды за імі хадзілі.

Пусці свінню пагрэцца, то і самому не будзе дзе дзецца.

Да арла паляцела цяцера і папала цяцера арлу на вячэру.

Мусіць, у сераду нарадзілася, што да ўсяго згадзілася.

Цянькі зводзяць дзянькі, калі седзень седзьма сядзіць.

Дзе маці нарадзіла, там і радзіма.

Бацькі быць вернымі нам радзілі. Бацькам, Радзіме мы не здрадзілі.

Пайшла Гандзя жыта жаць, ды забыла Гандзя серп узяць.

Каб на дзятла не стралец, быў бы дзяцел маладзец.

Лепей сядзьма на калодзе, пагаворым аб прыгодзе.

**З верша Эдзі Агняцвет:**

На градзе ў лебядзе лебядзёначак гудзе.
Малы лебядзёначак кагадзе з пялёначак.

**З верша Рыгора Барадуліна:**

Бубніла-нудзіла бубнела, хадзіла
Пакуль кракадзіла
  з далёкага Ніла
    не разбудзіла.

**З верша Васіля Зуёнка:**

Дзеяслоў – дзея слова: падзея, надзея. –
І душа маладзее, і голас цвярдзее.

**З верша Васіля Віткі:**

Лепш не кратай, лепш не руш
Мой дзіравы капялюш.
Падабасцца – надзень,
Але толькі не на дзень.
Раз надзень, два раздзень,
Куды хочаш, туды дзень.

**Загадка:**

Хто бязгучна мякка ходзіць?
Хто без рук павейкі зводзіць?
Не відаць яго нідзе,
А на ложак спаць кладзе? – Сон.

**З верша Рыгора Барадуліна:**

Па суседству дзядзька Чорны
Прадаваў старыя жорны.

**З верша Хведара Жычкі:**

У чацвер – чацвёрты дзень –
У грыбы хадзіў алень.

**З версэтаў Алеся Разанава:**

Дзічка-дзічка, чаму ты не груша?
Вось і піла ўжо зубіцца на цябе,
і вострыцца ўжо сякера.
Але хіба ведае дзічка, чаму яна дзічка?
А хіба ведаюць людзі, чаму яны людзі?
Нешта пагасла ў свеце,
нешта замоўкла, нешта асірацела.
Не ўсё, што расце, расце для яды,
і ўсё, што расце, расце адною ядою.
Прыходзіць з мінуўшчыны на апусцелае месца сівы
дзядуля.
З будучыні выблісквае ў нашы вочы пажар.
Пад вечар запаліцца ў печы.
І загаворыць апошні раз з намі
дзічка на самай відушчай мове – на мове
агню.

**З верша Эдзі Агняцвет:**

Я знайшла паблізу пня
Дзіўны корань буры.
Ну якраз медзвядзяня
З мордачкай панурай.

**З верша Казіміра Камейшы:**

Фарбы я ўзяла, вадзічку,
І малюю я сястрычку...
Бегаў пэндзлік мой, стараўся.
Ды мядзведзік атрымаўся.

**З верша Валянціны Коўтун:**

– Цвіркунок, цвіркунок,
Што ты робіш, мой кумок?
  – Ночку сустракаю
  І на скрыпцы граю.

**З верша Анатоля Грачанікава:**

На памылках ці трэба вучыцца?
Імі трэба, як зеллем, лячыцца.
Ад зласлівасці, ганарлівасці,
Ад халуйства і ад ліслівасці.
А калі хвароба не паддаецца, –
Значыць сэрца ў халастую б'ецца.

**З верша Наталлі Арсенневай:**

Дзе ні глянеш –
вясна,
ды якая!
Не саступіш –
пахне, перакіне!
Марны скверык – раскінуўся гаем,
неба латка – бязмежжам сінім!
Песцяць сэрца й худыя вазоны,
й брукі ў белі паперкавай лускі.
І ўсё чыста –
бо вецер з Гудзона
Сёння нейкі зусім беларускі!

**З верша Яўгеніі Янішчыц:**

Дабрыдзень, ліст вясковага спакою.
Уяўнага, як люстра ціхіх вод.

Калі ж душа зліваецца з ракою –
Няма тады падманнага спакою, –
Ёсць ціхіх думак вольны ход.
Таму і жыць, і жыць мне тут заўсёды,
Любіць твой дух настойна-смаляны,
Пакуль бруяцца бэзавыя воды
І як стагоддзі роднае прыроды –
Стаяць на вечнай варце валуны...

**З версэтаў Алеся Разанава:**

Едзем на возе з Хведаркам Барадатым па даўняй
лясной дарозе.
Апавядае Хведарка Барадаты, як шмат тут чаго
за вякі адбылося:
як людзі людзьмі пераймаліся,
як людзі людзьмі рабаваліся,
як забіваліся людзі людзьмі...
Я ведаю, – кажа ён, – толькі трохі,
ды ўсё, што тут было, да самых апошніх драбніц,
адкрыецца на судзе, на тым самым страшным судзе,
дзе ўзважвацца будуць людскія душы.
Просяцца ў нас, каб падвезлі, каго даганяем:
дзядзькі, дзецюкі, маладзіцы, падлеткі, жанкі,
старыя, –
і мы іх бяром, бо ўсе, хто ні ёсць на гэтай дарозе,
ужо не староннія нам, не чужыя,
ужо, нейкім чынам, с в а е.
Цесна пасеўшы, усім хаўрусам едзем
па даўняй лясной – па людскай!.. – дарозе,
едзем на страшны суд.

**З верша Янкі Сіпакова:**

Кажуць, было гэта даўным-даўно –
Адсюль не відно,
Было недалёка недзе:
Хадзіў мядзведнік з мядзведзем.
Па гарадах і вёсках яны хадзілі,
Абняўшыся, быццам бы роўныя,
Дарослых смяшылі, дзяцей весялілі
Гэтыя артысты вандроўныя.
    А мядзведзь быў артыст не просты –
    Прыгожы, высокі ростам.
    Пачне паказваць, як п'яныя ходзяць, –
    Усе маўчаць у здзіўленні:
    Не разумеюць, выходзіць,
    Сэнсу яго прадстаўлення.
А калі ён у прысядку пойдзе
Пры ўсім лясным народзе,
Пачне махаць над галавою лісцінай,
Нібы хусцінай,
    Усе рагочуць,
    Аж слёзы ім засцілаюць вочы:
    – Што з ім такое?! Чаго ён хоча?!

**З верша Алега Лойкі:**

Я ўваходжу штодня ў агонь
Там, дзе ў хцівую цемру-далонь
Хтось камусьці ў пярэдадзень-дзень
Трыццаць срэбранікаў кладзе.
    Я ўваходжу штодня ў касцёр
    Там, дзе холад, дзе голад і мор,
    Слёзы, горыч зямная, дакор
    Шлюць літанні-надзеі да зор.

**З пункціраў Алеся Разанава:**

Людзі
глядзяць у будучыню,
мінулае –
на людзей.

Ёсць лепшыя за мяне,
ёсць горшыя,
але сам я
ні лепшы, ні горшы –
адзіны,
угледзьцеся... –
чалавек
моўчкі кажа людзям.

Каб зразумець сябе –
Думка
дзеліцца на дзве часткі:
адна становіцца паляўнічым,
другая – уцекачом
і спасцігаецца,
калі гіне.

**З верша Яўгеніі Янішчыц:**

Шукаць карэньчыкі роднасці сваёй?
А тут – лясы, падзолістая глеба.
А тут – каторы дзень! – ілье пралой.
Як Дастаеўскі, схмарылася неба.
Язычнікаў куточак? Не, музык!
Вось паляшук узяў скразную ноту.
Струна душы, падобная на ўскрык,
Перажагнала радасць і гаркоту.

І ў гэтай дзіўнай, грознай цішыні,
Дзе сад здзічэў, дзе звялі пералескі,
Як струны, перабраўшы ночы й дні,
Я вас не раз успомню, Дастаеўскі!

**З верша Янкі Сіпакова:**

Зноў цішыня... І ў ёй зусім выразна
Мы чуем, як усюды на планеце
Спяшаюцца пясочныя гадзіннікі –
Перасыпаецца бязлітасна пясок...
Ну дзе ты, сонца?..
Вось штосьці дзынкнула... Нарэшце!
Гэта промень
Завёў сланечнік – сонечны гадзіннік.

**З паэмы Міколы Гусоўскага:**

Звер здабываўся па-рознаму. Лепшай здабычай
Тую лічылі, якую жыўцом дастаўлялі –
Поцягам ці на плячах – на дзядзінец у лагер.
Высач, злаві, прывядзі, не скалечыўшы, зубра –
Гэта ўжо мужнасць, і доблесць, і нават геройства!
Ну, і вядома, была ўзнагарода адважным.
А з маладушных маглі і спагнаць, безумоўна.
Мабыць, з тых часоў і выраз "адзнака па знаку"
Стаў абыдзённы між воінаў княжацкай раці.
Трапіў у знак – называлі "Значонкам", а схібіў –
Прозвішча "Хіба" насіў за памылкі і промах.
Самай высокай адзнакай таго адзначалі,
Хто, шыбануўшы кап'ё або дроцік, смяротна
Раніў жывёліну. Драпін у байцы не лічаць.

## Зычныя К, Х, Г

Глухі зычны [К] утвараецца ў выніку рэзкага выдыху паветра, якое адрывае заднюю частку языка ад цвёрдага паднябення і вырываецца ў шчыліну паміж зубамі. Пярэдняя частка языка не дакранаецца да ніжніх пярэдніх зубоў, бо павінна быць адцягнута назад.

Пры вымаўленні глухога зычнага [Х] рот раскрыты адвольна, язык свабодна адцягнуты назад так, каб пярэдняя частка яго не дакраналася да ніжніх пярэдніх зубоў, а задняя была прыўзнята да цвёрдага паднябення. Выдыхаемае паветра з невялікім шумам выходзіць у шчыліну паміж зубамі.

Пры вымаўленні звонкага зычнага [Г] артыкуляцыя такая ж, як і глухога [Х], толькі пярэдняя частка языка злёгку напружваецца і больш прыўзнята да цвёрдага паднябення, а гук напаўняецца голасам, які надае яму звонкасць.

1. Звонкі зычны [Г] на канцы слова аглушаецца і вымаўляецца як [Х]: ***сьнех*** *(снег)*, ***берах*** *(бераг)*, ***лух*** *(луг)*, ***плух*** *(плуг)*, ***апсях*** *(абсяг)*, ***батох*** *(батог)*, ***бех*** *(бег)*.

2. Звонкі зычны [Г] перад глухімі зычнымі аглушаецца і вымаўляецца як [Х]: ***лёхка*** *(лёгка)*, ***прухка*** *(пругка)*, ***дрохкі*** *(дрогкі)*, ***бехчы*** *(бегчы)*, ***стрыхчы*** *(стрыгчы)*, ***махчымасьць*** *(магчымасць)*, ***гаахская*** *(гаагская) канферэнцыя*, ***дзяхцярня*** *(дзягцярня)*.

3. У запазычаных словах замест фрыкатыўнага трэба вымаўляць выбухны звонкі [Г]: *гуз, гузік, ганак, гонты, гарнец, гвалт, гірса, нягеглы, газа, газніца,* ***газьнічка*** *(газнічка), газоўка, гарсэт, гарчык, гвалтаваць, гвалтоўнік, гергетаць, гізаваць, гільза, гіпс,* ***гіпсаваньне*** *(гіпсаванне),* ***гус*** *(гуз), гузак, гузасты, гузаваты, гузічак,* ***джганьне*** *(джганне), джгануць, джгаць, джыгіт, джыгітоўка, джыгітаваць, джыгаць, магерка, мегера,* ***нязграбнасьць*** *(нязграбнасць), нязгрэба.*

4. Глухі зычны [К] перад звонкімі зычнымі [З], [Г], [Д] у сярэдзіне слова вымаўляецца як выбухны [Г]: ***вагзал*** *(вакзал)*, ***вагзальны*** *(вакзальны)*, ***эгзамен*** *(экзамен)*, ***эгзаменавацца*** *(экзаме-*

*навацца),* ***эгзархат*** *(экзархат),* ***эгзотыка*** *(экзотыка),* ***эгзальтацыя*** *(экзальтацыя),* ***эгзекуцыя*** *(экзекуцыя),* ***ругзак*** *(рукзак),* ***паггаўз*** *(пакгаўз),* ***анегдот*** *(анекдот),* ***анегдатычны*** *(анекдатычны).*

Уважліва прачытайце (бязгучна, але актыўна артыкулююччы) або паслухайце, затым паўтарыце ўслых некалькі разоў умераным тэмпам наступныя спалучэнні гукаў і тэксты:

х-г, х-г, х-г
г-х, г-х, г-х
ха, хэ, хі, хо, ху, хы
ка, кэ, кі, ко, ку, кы
га, гэ, гі, го, гу, гы
кахха, кэххэ, кіххі, коххо, кухху, кыххы
хагга, хэггэ, хіггі, хогго, хуггу, хыггы
гакка, гэккэ, гіккі, гокко, гукку, гыккы
кахахха, кэхэххэ, кіхіххі, кохоххо, кухухху, кыхыххы
хагагга, хэгэггэ, хігіггі, хогогго, хугуггу, хыгыггы
гакакка, гэкэккэ, гікіккі, гококко, гукукку, гыкыккы

Кулік ды чайку схапіў за чубайку, а чайка кігіча:
"Ды згінь ты, куліча!"
Капылы перакапылілі, перавыкапылілі. Капыты
перакапыцілі, перавыкапыцілі.
Каму па каму, а каму па два, па тры камы.
Ішоў поп каля коп, каля капы, каля паўкапы.
Кумка кумцы па сакрэту, а кумка... а кумка тая ўсяму
свету.
Як Якімка, так і Хімка, а як Хімка, так і Якімка.
Няхай так, няхай сяк, няхай будзе з грэчкі мак.
Ходзіць ціхенька, ды думае ліхенька.
Карп і Пракоп, і Пракоп і Карп, то чатыры?.. А не Кар-

пы, не Пракопы, а Карповыя Пракопы і Пракопавыя Карпы.
Галубыя галубы гулялі ў галубятні дзеда Голубева.
І тут гу-гу, і там гу-гу, і нічога разабраць не магу.
Гаварыў, гаварыў, не дагаварыў, дагаворваў-дагаворваў, ды каб не загаварыўся.
Адным пальцам і гузік цяжка зашпіліць.
Бацька быў стралок, а я яго сынок.
Бацька за парог, дзеткі за пірог.
Нага нагу падпірае, рука руку абмывае.
Хто з кім, хто з каторай, а я – са сваёю Хадорай.
Гадзіна з гадзінаю, а год з годам – не роўныя.
Гнаёк ды лубінок – хлеба і на другі гадок.
З музыкі хлеб невялікі, а з гулякі ніякі.
Лёгка грош аддаць, а ці лёгка зарабіць?
Лёгкі здабытак – лёгкі пражытак.
Ведаў Бог, што не даў свінні рог.
Хто шукае гуза – знойдзе.
Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем смярдзіць.
Змог, не змог – пад ніз лёг.
Хоць махалам махай, то не адгонішся.
У няўмекі рукі калекі.
Лепш зухаваты, чым тхараваты.
Запрагай у дугу, я па хамут пабягу.
Не гуляй з вугольчыкамі – рукі папячэш.
Да прыгоды не тры годы, кожны год мае багата прыгод.
Гуз на гузе, а колькі гузакоў наперадзе.
Не піток, не ядок – не вялікі рабоцька.
За разумнаю галавою і рукам лёгка.
Байка без канца, як кабылка без хваста.
Хоць дрогка, ды нагам лёгка.

**З верша Максіма Багдановіча:**

У Вільні

Разносчыкі крычаць ля кожнай брамы...
Грук, гоман, гул, – усё ракой імкне.
А дальш – за радам кас, ламбардаў, банкаў –
Агні вакзала... павадка фурманкаў...
Віры людзей... сіпячы паравоз...
Зялёны семафор... пакгауз... склады...
Заводаў коміны пад цьмой нябёс...
О, горада чароўныя прынады!

**З верша Наталлі Арсенневай:**

Лёгка, салодка дыхаць вогкаю
цеплынёю красавіка,
мескім пылам, шпаковым цоканнем,
запыняцца,
глядзець,
чакаць
нейкіх слоў, якіх не вымавіў
яшчэ ніколі ніхто нідзе,
хоць шукаюць паэты стымулаў
да паэм
у агні і вадзе!

**З версэтаў Алеся Разанава:**

Нешта скранулася ў наваколлі,
нешта адтала.
пятая пара года – адліга.
Што забіралі ўсе іншыя поры, яна вяртае:
і зноў магчыма сустрэча,
і зноў магчымае шчасце,
і зноў магчымая неўміручасць.

**З балады Адама Міцкевіча:**

Калі пад'язджаеш начною парою
І станеш да возера тварам, –
Мігцяць зоркі ў небе, мігцяць над табою,
Мігцяць там і месяцаў пара.
    Не знаеш, – з-пад ног, можа, гэта шкляная
    Ідзе аж да неба дарога
    Ці неба шкляное скляпенне схіляе
    Табе аж пад самыя ногі!
І той, другі бераг убачыць не ў сілах –
З вышынямі возера зліта.
Нібыта вісіш ты на птахавых крылах
У нейкім бяздонні блакіту!

**З верша Яўгеніі Янішчыц:**

Ты пакліч мяне. Пазаві.
Сто дарог за маімі плячыма.
Пачынаецца ўсё з любві,
А інакш і жыць немагчыма.

**З верша Уладзіміра Караткевіча:**

А ў адверстыя дзверы ляпечуць лугі пад вятрыскам,
І няма ім канца, і на іх зелянеюць дубы,
І ля рук маіх цвёрдых так блізка, так блізка, так блізка
Легкакрылыя бровы і вочы, якіх не забыць.

**З версэтаў Алеся Разанава:**

Дакуль дасягае мой слых і зрок – датуль мой абсяг.
Ён маё прадаўжэнне, мой поступ, мая заваёва.
Аднак часам я чую, як на межах майго абсягу
Перагаворваюцца галасы:
"...Небарака, ён яшчэ ўсё на месцы... Ён яшчэ ўсё ніяк
Не можа пераступіць свой абсяг..."

**З верша Алега Лойкі:**

"Давай, – ты сказаў, – адпачнем хвілінку:
Зуброўка ў тутэйшых мясцінах вядзецца.
Крані спадысподу пазногцем травінку,
Калі серабрысты налёт застанецца,
Яна, значыць – рві!"

**З верша Яўгеніі Янішчыц:**

Для сваёй адзінае дачушкі,
На вякі (вядома ж, на вякі!)
Вышыла матуля мне падушкі,
Лёгкія, як дым, пухавікі.
    Вунь яны, прывезеныя з дому,
    Хораша цвітуць, як сенажаць.
    ...Ты даруй мне, мама, што мілому,
    Так, як ты, не ўмею мякка слаць.

## Зычныя П, Б

Губна-губны глухі зычны [П] вымаўляецца без удзелу голасу. Шчыльна самкнутыя губы з лёгкім шумам разрываюцца пад націскам выдыхаемага паветра.

Пры вымаўленні губна-губнога звонкага зычнага [Б] артыкуляцыйнае становішча частак моўнага апарату такое ж, як і пры вымаўленні глухога зычнага [П], толькі гук напаўняецца голасам, які надае яму звонкасць.

1. Звонкі зычны [Б] на канцы слова аглушаецца і вымаўляецца як [П]: ***грап*** *(граб)*, ***лоп*** *(лоб)*, ***дуп*** *(дуб)*, ***голуп*** *(голуб)*, ***ледаруп*** *(ледаруб)*, ***зруп*** *(зруб)*.

2. Перад глухімі зычнымі звонкі [Б] аглушаецца і вымаўляецца як [П]: ***галупка*** *(галубка)*, ***грыпкі*** *(грыбкі)*, ***апсмактаць*** *(абсмактаць)*, ***рапскі*** *(рабскі)*, ***паапскубваць*** *(паабскубваць)*, ***антрэсьці*** *(абтрэсці)*, ***паапсяканыя*** *(паабсяканыя)*.

3. Калі слова заканчваецца на галосны, часціца Б аглушаецца і вымаўляецца як [П] толькі ў тым выпадку, калі [Б] стаіць перад глухім зычным: ***напісаліп*** *(напісалі б) пісьмо*, ***узяліп штонебуць*** *(узялі б што-небудзь)*, ***кудып пайсьці*** *(куды б пайсці)*, ***расказалап сьвекрыві*** *(расказала б свекрыві)*.

4. Калі слова заканчваецца на галосны, а часціца [Б] стаіць перад звонкім зычным, то яна не аглушаецца: *што б гэта было, былі б здаровыя, каму б жаніцца, дайшла б да дому, узялі б ды зрабілі*, ***пасьмяялісябзьяго*** *(пасмяяліся б з яго)*.

Уважліва прачытайце (бязгучна, але актыўна артыкулюючы) або паслухайце, затым паўтарыце ўслых некалькі разоў умераным тэмпам наступныя спалучэнні гукаў і тэксты:

ап, эп, іп, оп, уп, ып
п-б, п-б, п-б
б-п, б-п, б-п
ба, бэ, бі, бо, бу, бы
па, пэ, пі, по, пу, пы
пабба, пэббэ, піббі, поббо, пуббу, пыббы
баппа, бэппэ, біппі, боппо, буппу, быппы
пабаппа, пэбэппэ, пібіппі, побоппо, пубуппу, пыбыппы
бапабба, бэпэббэ, біпіббі, бопоббо, бупуббу, быпыббы
пеппе, пёппё, пюппю, пяппя
беббе, бёббё, бюббю, бяббя
бепеббе, бёпёббё, бюпюббю, бяпяббя
пебеппе, пёбёппё, пюбюппю, пябяппя

Рамяство плячэй не абцягвае.
У пустой птушкі пустая песня.
Забіла б і баба лося, каб ёй удалося.
Піліпаў Пілін прыпоўз да ліп і да ліпы прыліп.
Булка з бульбай біліся, бульба булцы як дала, булка
спляшчылася.

Пільшчыкі-пілавальшчыкі пілавалі піламі. Пілавалі, перапільвалі, паперапільвалі, наперапілоўвалі, пілаванне перапалавінілі.
У бубны бубнілі, бубнілі, панабубніваліся.
Прыйшоў Пракоп – кіпеў кроп, пайшоў Пракоп – кіпеў кроп. Як пры Пракопе кіпеў кроп, так і без Пракопа кіпеў кроп.
Хлеб-соль не шкадуй добраму для дабросці, а злому – для злосці.
Што б ні гаварыла, што б ні рабіла, а праўду ўсё адно не сказала.
Абцугі два зубы маюць, цвік за капялюш трымаюць.
Ён абцасам зачапіўся, ды знячэўку паваліўся.
Цыбаты певень дзюбаю пачаў дзяўбсці боб. Дзёўб-дзёўб, дзёўб-дзёўб, ды так і не здужаў раздзяўбці.
Белыя галубкі паселі на слупкі. У іх лапкі маюцца, за дрот чапляюцца.
Каб быў здаровы, як дуб скарбовы.
Папрацуй да поту, паясі ў ахвоту.
Была б здаровая бабуся – нікога не баюся.
Што б гэта за чорт, каб не спакусіў.
Пакінуў хлеб, пабег па крошкі.
Каб не было снегу, не было б і следу.
Хоць саву аб пень, хоць пень аб саву, – усё саве баліць.
Якая сілка, такая і скібка.

**Актава Ніла Гілевіча:**

Белыя сыплюцца долу крышталікі,
Белыя крышацца хмаркі ўгары.
Сосны захутаны ў белыя шалікі.
Белая мітусь у белым бары.

Белая, мяккая ціша няхрусткая,
Белай дрымотай спавіты кусты.
Белае белле... Зіма беларуская...
Што ж мне не дорыш снягурачку ты?..

**З верша Наталлі Арсенневай:**

Я слухаю ізноў ды з прагай... цішу,
як спеў сірэн лавіў калісьці Адысей.
І кожны іншы тон чужы мне сёння, лішні,
хіба... каб перапёлкі голас па расе...
каб косаў звон хіба,
　　　калі размахам цесна,
а целу радасна крывёю палымнець...
Ці жніўняя туга, заклятая ў песнях,
　　　празрыстая вада ў гладышку на дне.
Дарма... Пяе прастор аб нудных даляглядах,
аб тым, чыю яны загойвалі тугу,
аб лабірынтах скал, Калхідах, лядах
абтокаў казачных,
аб хараstве лагун.
Нат ночы не згасіць аркестры стройнай мора.
Прыслухайся – гудзе смыком віяланчэль,
а скрыпак галасы звіняць высока, ўзгорна,
як над чыёй труной, аж уваччу пячэ.
Што ж, хай сабе плыве сімфонія ў сутонне...

**З верша Анатоля Сыса:**

На дне свечкі, на зыходзе ночы
з веямі абпаленыя вочы.
Чалавек быў дзіўны і бяссонны:
не падносьце свечак да іконы...

**З верша Яўгеніі Янішчыц:**

Якая часу рыска
З'яднала раптам нас?
Не мела права блізка
Я падысці да Вас.
Хацеў б, каб пакланіцца
За тое, што усё ж
Падбітую сініцу
Вы абагрэлі ў дождж.

## З ы ч н ы Р

Пры вымаўленні цвёрдага санорнага зычнага [Р] рот раскрыты адвольна. Пад моцным націскам выдыхаемага паветра кончык языка злёгку вібрыруе каля верхніх пярэдніх зубоў.

Пад моцным націскам выдыхаемага паветра працяжна вымаўляйце наступныя спалучэнні зычных:

ззз, ззз, ззз
аззз, эззз, іззз, оззз, уззз, ыззз
жжж, жжж, жжж, жжж, жжж
ажжж, эжжж, ожжж, ужжж, ыжжж
ззз-жжжж, ззз-жжжж, ззз-жжжж
жжж-ззззз, жжж-ззззз, жжж-ззззз
за, зэ, зі, зо, зу, зы
жа, жэ, жо, жу, жы
зазза, зэззэ, зіззі, зоззо, зуззу, зыззы
жа-ж-ж-жжа, жэ-ж-ж-жжэ, жо-ж-ж-жжо, жу-ж-ж-жжу,
жы-ж-ж-жжы.

У наступным практыкаванні больш моцнага націску патрабуе звонкі зычны [Д], пры вымаўленні якога язык шчыльна прыціснуты да верхніх пярэдніх зубоў і альвеол, што і патрэбна для правільнага вымаўлення санорнага [Р]:

зжд, зжд, зжд
зжда, зждэ, зждо, зжду, зжды
зжд-д-д-д, зжд-д,-д,-д, зжд-д-д-д
зжд-зждр, зжд-зждрр, зжд-зждррр
тра, трэ, тро, тру, тры
дра, дрэ, дро, дру, дры
зждра, зждрэ, зждро, зждру, зждры
традра, трэдрэ, тродро, трудру, трыдры
дратра, дрэтрэ, дротро, друтру, дрытры
р-р-р-р-р, р-р-р-р-р-р-р, р-р-р-р-р-р-р-р-р

Уважліва прачытайце (бязгучна, але актыўна артыкулюючы) або паслухайце, затым паўтарыце ўслых некалькі разоў умераным тэмпам наступныя тэксты:

Руды Рыгор гроб грыбы граблямі.
Варыла не варыла, абы добра гаварыла.
Усе бабры дабры, адна выдра – ліха яе бяры.
Рабая курка клюе крупкі. Крупкі клюе рабая курка.
Трыццаць тры дрывасекі дроў трыццаць тры дрывотні надрывасечылі.
Караля Карла каранавалі каронаю на каранацыі ў Ёркшырскім каралеўстве.
Як ні ары, абы чорным дагары.
Клюй, курка, крупкі. Крупкі, курка, клюй.
Якая рада, такая і грама́да.
Рыбак рыбачыў, а рыбы не бачыў.
Вароны на балоце – будзе гаспадар на рабоце.
Нявестка порсткая, як сена жорсткая.
Няма роду без выроду.
Трапіцца і найразумнейшаму здурнець.
Хто з разумным у дабры і горы пабудзе, таму розуму прыбудзе.

**З верша Эдзі Агняцвет:**

Рагатун Рыгорка родам
З Рагачова горада.
Як захоча, зарагоча
Рагатлівым рогатам.

**З верша Васіля Віткі:**

Драч-драч,
Бяры дзяркач,
Дзяры дзёран.
А драч – у плач:
– Я і так зморан.
Краў дровы з падваротні –
Занядужаў нешта,
Саслабеў дарэшты.
Не кажы, драч,
Дарэшты –
Горла добра
Дзярэш ты.

**З пункціраў Алеся Разанава:**

Дрэва:
крывыя галіны,
крылатае лісце,
скрытыя карані.
    Той абруч,
    якім сашчапілі дрэва,
    што раскалолася ад цяжару ўраджаю,
    увайшоў ў сярэдзіну дрэва,
    карой зацягнуўся,
    стаў дрэвам самім.

У горадзе шэрых шматпавярховых дамоў
як найвялікшае дзіва
я раптам убачыў
барвовы акраец сонца.

Звечарэла.
Зайшло чырвонае сонца,
выйшаў чырвоны месяц.
Блукаю па вуліцах.
Восень блізка.
Нас рухае нямы
кругазварот нязморны.
У прадчассі палёну, мы –
нібы зярняты ў жорнах.

**З верша Уладзіміра Караткевіча:**

Калі памірае каханне... Але каханне не памірае.
Яно вечна застаецца ў грудзях лікуючай тугою слоў.
Безнадзейным болем і непатольнай пяшчотай,
Калі нічым не дапаможаш, хаця сэрца аб зоры разбі.
Плач дрыядай, рагачы сатанінскай няшчыраю
ўсмешкай,
Львом куртатым кроч, слізгай самаахвярным змеем
Або падлай няшчаснай валяйся на ворыве лёсу –
Усё дарэмна. Няма дапамогі. І смерці няма ў кахання.
Чалавек толькі смертны. Але калі дрэвы не помняць,
Гарады не помняць, не помняць нямыя планеты –
Сэрца помніць каханне і попелам стаўшы з агню.
Усё помніць і мёртвае сэрца.
І кружляе з крыкам перадсмяротнай і ўсё ж
бессмяротнай тугі
Над магіламі мёртвых багоў,
над журботным спакоем зрынутых дрэў.

Над жывёламі, кінутымі на раллі,
Над планетамі мёртвымі і гарадамі –
Бессмяротнаю каняй, што моліць аб кроплі вады.

## Зычныя М, Н, Л

Пры вымаўленні санорнага зычнага [М] шчыльна самкнутыя губы разрываюцца пад націскам выдыхаемага паветра.

Пры вымаўленні санорнага зычнага [Н] рот раскрыты адвольна, пярэдняя частка языка злёгку прыціскаецца да цвёрдага паднябення. Пад націскам выдыхаемага паветра язык адштурхоўваецца ад цвёрдага паднябення, паветра вырываецца ў шчыліну паміж зубамі.

Пры вымаўленні пярэднеязычнага звонкага [Л] рот раскрыты адвольна, пярэдняя частка языка злёгку прыціскаецца да верхніх пярэдніх зубоў і адштурхоўваецца ад іх.

1. Санорны зычны [Н] перад мяккімі афрыкатамі [ДЗЬ], [ЦЬ] вымаўляецца мякка: ***каманьдзір*** *(камандзір),* ***мяньціць*** *(мянціць),* ***каменьціраваць*** *(каменціраваць),* ***заньдзіраваць*** *(зандзіраваць), хадзіць* ***каньдзібоберам*** *(кандзібоберам),* ***нідэрланьдзец*** *(нідэрландзец),* ***каньцік*** *(канцік),* ***дэньдзі*** *(дэндзі).*

2. Санорны зычны [Н] перад мяккімі зычнымі [С], [З], [В], [Ф], [К], [Г], [Л] вымаўляецца цвёрда: *кансерваторыя, кансіліум, кансервацыя; вензель, гартэнзія, Занзібар; інверсія, канвеер, інвентарызацыя, Грынвіч;* ***дэзынфекцыя*** *(дэзінфекцыя), канфідэнцыяльны, канфедэратка, канфігурацыя; ангіна, венгерка, ларынгіт; донкіхоцтва, банкет, банкір,* ***анкетаваньне*** *(анкетаванне),* ***зьменлівасьць*** *(зменлівасць), гаманлівы.*

3. Санорны зычны [М] перад мяккімі зычнымі [Н], [С], [В], [Ф], [К], [П], [Б], [Л], [ДЗ] вымаўляецца цвёрда: *амністыя, грамніцы, цямнюткі, чымся* ***зьвязаны*** *(звязаны),* ***зьякімсь*** *(з якімсь) дакорам; дуумвір, дуумвірат, трыумвір, трыумвірат, амфітэатр, амфібія, амфібрахій; чымкенцкі, напрамкі, ёмкі, цямкі; Пампея, кампенсацыя,* ***кэмпінх*** *(кэмпінг), пампез-*

*ны, шампіньёны, чэмпіён, імперыя, джэмпер; Чэмберлен, Замбія, імбір, бамбіза,* ***бамбёшка*** *(бамбёжка), выкамбіноўваць; зямляк, самлець, цямлівы, зазямліць, Гамлет,* ***афармленьне*** *(афармленне); семдзесят, восемдзесят.*

Уважліва прачытайце (бязгучна, але актыўна артыкулюючы) або паслухайце, затым паўтарыце ўслых некалькі разоў умераным тэмпам наступныя спалучэнні гукаў і тэксты:

амм, эмм, імм, омм, умм, ымм
ма, мэ, мі, мо, му, мы
анн, энн, інн, онн, унн, ынн
на, нэ, ні, но, ну, ны
мамма, мэммэ, міммі, моммо, мумму, мыммы
нанна, нэннэ, нінні, нонно, нунну, ынны
манамам, мэнэмэм, мінімім, мономом, мунумум, мыныммым
наманан, нэмэнэн, німінін, номонон, нумунун, нымынын
л-ль, л-ль, л-ль
ал, эл, іл, ол, ул, ыл
ла, лэ, лі, ло, лу, лы
ель, ёль, юль, яль
лаль, лэль, ліль, лоль, луль, лыль
лалла, лэллэ, ліллі, лолло, луллу, лыллы
ле, лё, лю, ля
лелле, лёллё, люллю, лялля
лалля, лэлле, лоллё, луллю, лалля
тла, тлэ, тло, тлу, тлы
дла, длэ, длі, дло, длу, длы
тладла, тлэдлэ, тлідлі, тлодло, тлудлу, тлыдлы
длатла, длэтлэ, длітлі, длотло, длутлу, длытлы
тле, тлё, тлю, тля
дле, длё, длю, для

тледле, тлёдлё, тлюдлю, тлядля
длетле, длётлё, длютлю, длятля
лі-лі-лі-лі-ліль, ле-ле-ле-ле-лель, лё-лё-лё-лё-лёль, лю-лю-лю-лю-люль, ля-ля-ля-ля-ляль
лі-лі-лі-лі-лільлі, ле-ле-ле-ле-лельле, лё-лё-лё-лё-лёльлё, лю-лю-лю-лю-люльлю, ля-ля-ля-ля-ляльля

Вялікі целам, ды малы дзелам.
Караблі лавіравалі, лавіравалі, ды не вылавіравалі.
Учора гулі, сёння гулі – будзеш хадзіць без кашулі.
Зямля – талерка, што пакладзеш, тое і возьмеш.
Шумны, думны, ды не разумны.
Ні налева, ні направа, ні направа, ні налева.
Адзін сын – не сын, два сыны – паўсына, а толькі тры сыны – сын.
У гаспадарлівай ды руплівай гаспадынькі і накормлена, і напоена, і багата надоена.
Інжынеры нівеліравалі, нівеліравалі, ды так і не вынівеліравалі.
– Ці лілі алей? Ці не лілі?
– Чаго там цілілікаеш?
– Я не цілілікаю, а пытаю: ці лілі алей, ці не лілі?
– Ці лілі, ці не лілі, каб яшчэ падлілі.
Многа, ну і многа вады плыве на наш млын.
На лета, то на лета, ды толькі ж не на гэта.
Так – на ліха, а так – на пуста.
Лянівы і санлівы – два браткі.
Танянёх, танянёх, куды кінуў, там і лёг.
Ні ладу ні складу, ні ў кола ні ў мяла, ні па кані ні па аглоблях, ні ў салдаты ні ў матросы, а падмазваць калёсы.
Вазьмі Даніла, што нам няміла.
Млын меле – мука будзе, язык меле – бяда будзе.

Свая болька ўсякаму баліць, чужая болька нікому
не баліць.
Чые б цяляткі рыкалі, а вашы б маўчалі.

## Зычныя Ф, В

Пры вымаўленні глухога зычнага [Ф] ніжняя губа злёгку дакранаецца да верхніх пярэдніх зубоў, выдыхаемае паветра з невялікім шумам выходзіць у маленькую шчыліну паміж верхнімі зубамі і ніжняй губой, язык ляжыць плоска.

Пры вымаўленні звонкага зычнага [В] ніжняя губа злёгку прыціскаецца да верхніх пярэдніх зубоў, а ў момант гучання адштурхоўваецца ад іх, выдыхнутае паветра з гукам вырываецца ў шчыліну паміж зубамі.

Уважліва прачытайце (бязгучна, але актыўна артыкулюючы) або паслухайце, затым паўтарыце ўслых некалькі разоў умераным тэмпам наступныя спалучэнні гукаў і тэксты:

ф-в, ф-в, ф-в
в-ф, в-ф, в-ф
афф, эфф, іфф, офф, уфф, ыфф
фа, фэ, фі, фо, фу, фы
авв, эвв, івв, овв, увв, ывв
ва, вэ, ві, во, ву, вы
вафф, вэфф, віфф, вофф, вуфф, выфф
фавв, фэвв, фівв, фовв, фувв, фывв
ваффа, вэффэ, віффі, воффо, вуффу, выффы
фавва, фэввэ, фівві, фовво, фувву, фыввы
фе, фё, фю, фя
ве, вё, вю, вя
феве, фёвё, фювю, фявя
вефе, вёфё, вюфю, вяфя

фефевве, фёфёввё, фюфюввю, фяфяввя
вевеффе, вёвёффё, вювюффю, вявяффя

Любіць Валодзя валаводы валаводзіць.

Сваяк сваяка па-свойму вітае: будзь здаровы, як дуб скарбовы.

Фатограф сфатаграфаваў фітафага на фоне фінікавай пальмы.

Воўк не выбіраючы авечак бярэ.

Воран ворану вочы не выклюе.

Фарсун фарсіў у фіялетавым фраку і фетравым капелюшы.

Ад віднога да віднога, век у век жыў чалавек.

У фальварку Фабіяна флёксы расцвілі.

Які Сава, такая і слава: здаровы як вол, а халявы дзіравы.

Фасфарысты фосфарам фасфарысцыравалі – фасфарысцыравалі, фасфарысцыравалі – фасфарысцыравалі ды не пафасфарысцыравалі.

Васіліна і Васіль! Пасівелі вы, як галубы сівыя.

Фламандзец і фламандка сфатаграфаваліся каля фламінга.

Савось-свавольнік насваволіў: выдраў лысаму валасы.

Воўк ваўчаня вучыць, як авечак браць.

Званіў звонка-звонка, званіў, перазваньваў, ды так і не дазваніўся.

Ты мяне вызвалі, а я цябе вывучу.

Сват цікавы, як Марцін да кавы. А ў сваці вочкі – не вочкі, а званочкі.

Выгадаваць выгадавалі, вывучыць вывучылі, цяпер нашы вучні самі вучняў вучаць.

## Падоўжаныя зычныя

Характэрнай асаблівасцю беларускай фанетыкі з'яўляецца наяўнасць падоўжаных зычных. Падаўжаюцца наступныя зычныя:

ЗЬ – ***гразьзю*** *(граззю)*, ***мазьзю*** *(маззю)*, ***рызьзё*** *(рыззю)*, ***жалезьзе*** *(жалеззе)*, ***палозьзе*** *(палоззе)*, ***Залозьзе*** *(Залоззе)*, ***зьзямлі*** *(з зямлі)*;

ЛЬ – ***гульлівы*** *(гуллівы)*, ***жыльлёвы*** *(жыллёвы)*, ***навакольле*** *(наваколле)*, ***раздольле*** *(раздолле)*, ***эскадрыльля*** *(эскадрылля)*, ***гальлё*** *(галлё)*, ***зельле*** *(зелле)*;

НЬ – ***летуценьні*** *(летуценні)*, ***запазычаньне*** *(запазычанне)*, ***раньне*** *(ранне)*, ***сёньняшні*** *(сённяшні)*, ***сьняданьне*** *(снядание)*, ***насланьнё*** *(насланнё)*, ***зьмярканьне*** *(змярканне)*;

СЬ – ***Палесьсе*** *(Палессе)*, ***міжлесьсе*** *(міжлессе)*, ***касьсё*** *(кассё)*, ***калосьсе*** *(калоссе)*, ***валосьсе*** *(валоссе)*, ***восьсю*** *(воссю)*, ***бесьсістэмны*** *(бессістэмны)*;

ЦЬ – ***жыцьцё-быцьцё*** *(жыццё-быццё)*, ***ліцьцё*** *(ліццё)*, ***пачуцьці*** *(пачуцці)*, ***рацьцю*** *(рацыю)*, ***сьмецьце*** *(смецце)*, ***піцьцё*** *(піццё)*, ***багацьце*** *(багацце)*;

ДЗЬ – ***разводзьдзе*** *(разводдзе)*, ***судзьдзя*** *(суддзя)*, ***благародзьдзе*** *(благароддзе)*, ***гладзьдзю*** *(гладдзю*, ***маладзьдзю*** *(маладдзю)*, ***чэлядзьдзю*** *(чэляддзю)*, ***падзьдзёўка*** *(паддзёўка)*, ***падзьдзець*** *(паддзець)*;

Ж – *прыбярэжжа, збожжа, Запарожжа, ружжо, замежжа, падарожжа, раздарожжа, замужжа, Залужжа;*

Ш – *узвышша, зацішша, застрэшша, мышшу, аднадушша, Замошша;*

Ч – *запечча, Случчына,* ***пераплечча*** *(перадплечча)*, *ламачча, прырэчча,* ***праччуваньне*** *(прадчуванне)*, ***паччапіць*** *(падчапіць)*;

К – толькі ў слове *мяккі* і ў запазычаным слове *Мекка*.

Вымаўляюцца так, як і пішуцца, толькі зацвярдзелыя падоўжаныя зычныя.

Уважліва прачытайце (бязгучна, але актыўна артыкулюючы) або паслухайце, затым паўтарыце ўслых некалькі разоў умераным тэмпам наступныя тэксты:

То маззю, то граззю, ды неяк жа вылечылі.
Ілля наробіць гнілля.
Ліхадзея зеллем не палечыш.
На ранняй ралліцы родзіць жыта ды пшаніца, а на позняй ралліцы родзяць кукаль ды мятліца.
У вочы – то “саколю!” А за вочы – то соллю, то смоллю.
За папытанне не даюць ні ў каршэнь, ні снядання.
Сем Сцяпанаў на міжлессі сеялі пшаніцу.
Не адкладвай на заўтра, што паспееш зрабіць сёння.
Скора казка кажацца, ды не скора справа робіцца.
Не рассыпайся дробным макам – хітрэйшы за ўвесь свет не будзеш.
Гара з гарою не сходзяцца, а людзі сходзяцца.
З ваччу сышоў і з памяці зваліўся.
Не ўсё тое збываецца, на што чалавек спадзяваецца.
Пабег – адно вецер увушшу засвістаў.
Мякка сцеле, ды мулка спаць.
Няма кахання без прытуляння.
Калі ўлетку дождж рэдка бывае, то ў вуллі мёд прыбывае.
Пасля Іллі вада і з зямлі.
Яду на заўтра адлажы, а справу сёння зрабі.
Прыйдзе тая нядзеля, што будзе і маё вяселле.

**З верша Максіма Багдановіча:**

Халоднай ноччу я ў шырокім полі
Каля агнішча лёг і сціхнуў у паўсне.
Агонь усё слабеў... урэшце знік паволі...
І ўраз зрабілася вясёла неяк мне!..

Хай, шэры попел, ты агнішча ўсё сабою
Ў нядоўгі час здалеў, як рызаю, пакрыць –
Я ведаю, што там агонь дрыжыць пад ёю,
Я ведаю, што там чырвоны жар гарыць...

**З балады Адама Міцкевіча:**
Лета мінула, няўжо ў непагоду,
Ноччу асенняй, бяззорнай,
Трэба чакаць мне каханай прыходу
Тут, у глушы прыазёрнай?
Ты быццам сарна мільгаеш лясная,
Зданню блукаеш начною,
Лепей застанься з тым, хто кахае,
Лепей застанься са мною.

**З верша Наталлі Арсенневай:**
Як вокам скінуць –
сцяг пушчаў сініх...
За пушчай далеч, яшчэ сіней...
А тут, на ўзвышшы, стаіць над намі
наш Крыж прыгожы, нібы ў сне...
Шмат чулі свету крыжы маленняў,
шмат прсьбаў, выкліканых бядой.
Прыйшлі й мы ў прошчу сагнуць калені,
свяціць не нечы крыж, а свой.
Тут – дождж імгненна каменне спляміў,
рассыпаў кроплі ў траве, ў лісці...
Няйнакш –
і Нехта дзесь там, над намі,
наш Крыж вадою святой хрысціў.

**Пункціры Алеся Разанава:**

Не сплю. Адліжна. Поле
туманіцца ў акне.
Міжлессе – ў наваколлі.
Міжлессе – ува мне.

**З верша Максіма Багдановіча:**

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.

**З верша Яўгеніі Янішчыц:**

Жыццё, ты стэп, што выгараў да краю,
Дрыготкі ліст на восеньскім галлі.
І ўсё адно – цябе я абдымаю,
І ўсё адно цябе я блаславўляю
За боль і рай на песеннай зямлі.

**Пункціры Алеся Разанава:**

Бы выпаду з сягоння,
з гнязда сэрцабіцця...
Што скажаш мне, бяссонне, –
аскепак небыцця?!.

**З верша Максіма Багдановіча:**

Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы
Упадзе пясчынка хоць адна, –
жомчугам патроху робіцца яна!
Калі ў дух мой западзе і заварушыцца
Там кавалак грубага жыцця, –
Ў жомчуг звернецца ён сілай пачуцця!

**З паэмы Міколы Гусоўскага:**

Край свой (цяпер ужо ўласнасць Кароны) калісьці
  Я перамераў удоўжкі і ўпоперак пешшу.
Змалку ад бацькі вучыўся ў бясконцых абходах
  Крокам нячутным ступаць, каб нішто не шурхнула,
І спасцігаў, як звяроў прыкмячаць па бярлогах
  Нюхам, і вухам, і зрокам.

**З верша Рыгора Барадуліна:**

Світанняў я з табой не сустракаў,
Не рассякаў азёрнай хвалі.
І толькі шморгаў носам аб рукаў,
Калі цябе да дошкі выклікалі.

**З санета Максіма Багдановіча:**

Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла,
Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:
Ў гаршку насення жменю там знайшлі.
Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Нарой вясенняй збожжа на раллі.

**З верша Уладзіміра Караткевіча:**

Безгаловая Венера.
Стаю ля яе ў задуменні
І голас пяшчотны чую:
"Прыйдзіце, мужчыны, ад сечаў,
Ад турмаў, ад страт на світанні.
Адзінае ёсць на свеце:
Сумленне, братэрства, каханне".

І думаю я неадчэпна:
За што ж ты бяду спаткала?
За што галаву ты згубіла?
Якую праўду сказала?

**З верша Янкі Сіпакова:**

Калі ў зубровым статку
яго мудрасці стане цесна,
Калі яму надакучыць
непатрэбная мітусня,
Ён ідзе ў лістападны шоргат –
у сваю пажоўклую песню,
Дзе дрэвы, нібы стагоддзі,
над кожнай казюркай звіняць.
Ідзе ў свае стагоддзі,
дзе дрэвы, як вёрстаў цені,
Вядуць яго далей і далей –
у самы ціхі гушчар.
І яму саступаюць дарогу,
бы слугі, дзікі і алені.
Бачаць: ідзе, як філосаф,
іх непадробны цар.

**З паэмы Міколы Гусоўскага:**

Княжанне Вітаўта лічаць усе летапісцы
Росквітам княства Літоўскага, нашага краю,
І называюць той век залатым. Залатыя
Зямлі аздобы ў харомах, а ў курных халупах
Вёсак, пасадаў – якая ж была пазалота?

Сам справядлівы ва ўсім, ён па гэтай жа мерцы
Кожнаму мераў і нейкім сваім адчуваннем
Мог здагадацца адразу, дзе праўда, дзе крыўда.
Позіркам жорсткім, што гляне – аж зробіцца млосна,
Ён, як вядзьмак, абяззбройваў усіх ашуканцаў:
"Хлусіш!" і хлус прызнаваўся, што сведчыць ілжыва.
Кара была неадкладнай, чакала пры замку:
Іх, закруціўшы ў звярыную шкуру, спіхалі
З вала на пляц сабакарні, дзе псы-ваўкадавы
Клычылі ў шмацце асуджаных – ведама ж, псярня.
Так жа бязлітасна, строга караў ён і суддзяў
Княжацкіх вотчын за подкуп, хабар, ліхвярства.
Выпадак быў, ды не ведаю дзе. Спакусіўся
Нейкі суддзя на багаты дарунак, і справу
Выйграў адказчык насуперак княскаму ўказу.
Скарга да князя дайшла; вінаваты прызнаўся.
Кат перабіў яму рукі і ногі, а потым –
Зноў жа ў навуку другім – і суддзю пры народзе,
К конскім хвастам прывязаўшы, пусцілі на волю.
Прагнасць нажыцца пад шыльдай аховы закона,
Скваппасць – загрэбці кавалак у бліжняга з рота –
Ён тыранічнымі сродкамі пратараніў,
Што на вякі нават завад іх вывеўся ў княстве.
Кім бы і чым бы не быў ён пры іншых заслугах,
Нават за гэта адно я пяю яму славу.
Густа ён справамі век насяліў свой, і водгук
Спраў тых вячыстых адклікнецца ў многіх стагоддзях.

**З верша Сяргея Фаміна:**

Пераразвонамі стазвоннымі
Празваніла восень клёнамі,
Калыхнула сосны сонныя,
Калыхнула засмучоная.
    Муць туманная, глыбокая,
    Думкі-сцежкі дзеразовыя.
    Ў думках светлых – каравокая,
    Шчасце вуснаў – пурпуровае...
Ну а потым – смуць прадонная:
Развіталіся ў гонях мы...
Пераразвонамі стазвоннымі
Празваніла восень клёнамі...

**З паэмы Адама Міцкевіча:**

Раннім ранкам аблокі былі раз`яднаны,
Нібы чорныя птахі ныралі ў туманы
І збіраліся ў стаю. Калі ж сонца узбегла
На поўдзень, іх стая ўсё неба аблегла
Хмарай чорнаю. Вецер трапаў яе хіжа,
І яна ўсё гусцела, звісала ўсё ніжай,
Аж пакуль яе край, ад нябёс адарваны,
Да зямлі не дастаў, ушыркі распрастаны;
І надулась як ветразь, вятры ўсе ўвабрала,
Злая, чорная з поўдня на захад імчала.
А зямля шчэ на захадзе
                    ў сонечным ззянні
Скрозь ляжала ў жаўтавата-чырвонае цьмяні;
Хмара ж з ценю ўжо сетку пляла і ляцела
Сонцу ўслед,
                    быццам вылавіць промень хацела.
Быццам мела над-захад злавіць само сонца.

А віхры ўжо свісталі над долам бясконца
І ўжо неслі з сабой
безліч кропляў срабрыстых,
Нібы градзіны, гэткіх буйных і зярністых;
А пасля развінуўшыся ў небе і доле,
З свістам, рэвам,
выццём закружыліся ў коле;
Узняліся слупом, агалілі дно става,
Сіганулі ў лугі – лозы нішчаць і травы:
Лоз галінкі ляцяць, травы, як на пакосе,
Нібы выдраў хто жменяй на вецер валоссе;
Пасшыбаны снапы ў полі...
Дзьмуць вятры, выюць,
На раллю апусціўшыся, нішчаць і рыюць,
Глебу ўзносяць угору,
каб шлях адкрыць новай,
Шчэ мацнейшай,
страшнейшай віхуры чарговай.

## Часціца НЕ, прыназоўнік БЕЗ

Часціца НЕ, прыназоўнік БЕЗ, калі яны стаяць перад словам з націскам на першым складзе, вымаўляюцца як НЯ, БЯЗ: ***ня-косіць Фецька*** *(не косіць Федзька), бо ў торбе* ***рэцька*** *(рэдзька);* ***бяскветак*** *(без кветак).*

Уважліва прачытайце (бязгучна, але актыўна артыкулюючы) або паслухайце, затым паўтарыце ўслых некалькі разоў умераным тэмпам наступныя тэксты:

Як не пасееш, то і збіраць не будзе чаго.
Вучыцца ніколі не позна.
Хай вам лёс не здрадзіць.

З бядою і сонца не ўбачыш.
Каб дзяды не ведалі бяды, а ўнукі не бачылі мукі.
Хлеб не зяць, добрыя людзі з'ядзяць.
Чужымі дзеткамі не дай Бог загадваць.
Ці бі, ці не бі, ці лай, ці не лай, а рады дай.
Не пі, не еж і з хаты не лезь.
Не тое багацце, што цесць з цешчаю далі, а што маладыя самі нажылі.
Не вінна свінка, а вінна дзірка.
Не прошаны, не дзякаваны.
Не плямкай і не гамкай.
Без хлеба няма абеда.
Без сала куса няма жыцця ў беларуса.
Каваль без сякеры, а шавец без ботаў.
Спадзявайся на лепшае, не бойся напаткаць горшае.
Не будзе дуба, не трэба і грыба.
Без скрыпачкі, без дуды ходзяць ногі не туды.
З гэтага квасу піва не будзе.
Хлеб плячэй не горбіць.
Да званіцы падняўся, ды без розуму застаўся.
Без песні – хоць трэсні!
Без працы не будзе шчасця.

**З верша Генадзя Бураўкіна:**

Вы думаеце так, без болю
Песня народзіцца ў маленькай кволай скрыпцы?
О, вам тады яшчэ не біў па сэрцы
Смычок турбот бяссонных і трывог.

**З верша Пятруся Макаля:**

Я без цябе – без рэчышча вада,
Якой ніколі не сустрэцца з морам.

**З верша Аркадзя Куляшова:**

Не вытрымае сэрца падарожжа –
Заглухне бездакорны мой матор,
Што пыл глытаў, вычыхваў бездарожжа...
Прымі яго без кветак і без зор.

**З верша Змітрака Астапенкі:**

Не закідвай за спіну
Косы шоўкавыя – змеі.
Я спаткаў з табой вясну,
Я без слова зразумею.

**Пункціры Алеся Разанава:**

Дзіця вучыцца вымаўляць
свае першыя словы.
Дарослыя слухаюць:
раптам яно скажа тое,
чаго яны ўжо не могуць сказаць.

Блукаю
па незнаёмым горадзе,
ніхто мяне тут не спаткае,
ніхто не пярэйме.
ніхто не скажа:
ты сёння не гэтакі, як звычайна.

**З верша Яўгеніі Янішчыц:**

Цяжар не перавальвайце на плечы
Спадручнаму
у век суровай прозы.
Лаўровікі, не думайце пра вечнасць:
І помнікі не ўсе адліты з бронзы!

Не трэба пеўняў разліваць вадою –
Праз пяць хвілін угаманяцца страсці.
Не варта рваць адносіны з бядою,
Бо непадзельна з ёю ходзіць шчасце.

**З верша Сяргея Дзяргая:**

І ты, адным-адзіная мая,
Кахаеш гэтак жа – без роздуму вагання,
Як шчыра сам цябе кахаю я.
І то не прывід, а само каханне.

**З верша Яўгеніі Янішчыц:**

Высока слова падымі
Без тостаў лішніх.
...Дарога сцелецца людзьмі, –
Не помню іншай.

**З верша Максіма Лужаніна:**

Ніколі не бачыў, ніколі не быў,
Ніколі так моцна зямлю не любіў.

## ТЭКСТЫ
## для выпрацоўкі дыкцыйнай выразнасці

### ПІСАКА

Пісаў пісака, пісаў, перапісваў, ды і напісаў: мы самі з вусамі, але калі ўлетку на сонцы не напячэшся, то ўзімку з холаду натрасешся, і ад смерці не адкупішся і не адпросішся, калі пайшлі грошы на раскошы. А вось хто парасё ўкраў, таму ўвушшу пішчыць (колькі вяровачку не віць, а ўсё кончыку быць), таму салдат не бядак: шапку на макушку, шабелька на брушку, вус закручоны, бот пачарнёны, узяў ды і зарабіў на соль салонага селядца пасаліць, а пасля кажа: свой сячыся, рубайся, а чужы не мяшайся, бо на чужыне чужы да чужога, як у лесе сляпы да сляпога.

Карацей, кошка мышцы не таварыш, калі жабрак жабрака жабраваць вучыць. А ўсё таму, што і тут гу-гу і там гу-гу, і нічога разабраць не магу.

### ДЗЯМІД І КУЗЬМА

Гаварыў Кузьма Дзяміду:

– Эх, жыць бы пажываць ды дабро нажываць.

Гаварыў Дзямід Кузьме:

– Дай Божа, каб усё было гожа, а што не гожа, не дай Божа, бо даўно вядома: добра будзе – напрацуешся і накрасуешся, кепска будзе – нагаруешся і накукуешся.

– Так то яно так, але каб жа не ежка ды не адзежка, была б грошай поўная дзежка. А яшчэ, каб на дзятла не стралец, быў бы дзяцел маладзец.

– Ты, братка, як той гусь: пабудзе ў вадзе і не мокры нідзе, – паддзямідзіў Кузьма Дзяміда.

– А ты брашы, брашы, набрэшашся, прыйдзе ліха – павесішся, – падкузьміў Дзямід Кузьму.

– Ну, добра, гудзьма, гудзьма, ды і тут будзьма. Глянь на Гарошку: франт – боты ў рант, галава стручком, нос кручком.

– Яго Тадора хваліла сябе сёння і ўчора.

– Ой, братка ты мой! Учора ж Піліпаў Піліп так націлілікаўся, што прыпоўз да ліп і да ліпы прыліп. А потым як закрычыць: "Была б здаровая бабуся – нікога не баюся!"

## ПІЛЬШЧЫКІ

Пільшчыкі–пілавальшчыкі пілавалі піламі. Пілавалі, перапільвалі, паперапільвалі, наперапілоўвалі, пілавінне перапалавінілі. Пасля селі на калодзе, гаварылі, што прыйшоў Пракоп – кіпеў кроп, пайшоў Пракоп – кіпеў кроп. Як пры Пракопе кіпеў кроп, так і без Пракопа кіпеў кроп.

Выходзіць: у пустой птушкі пустая песня. А каб у дамочку, у хлявочку, у садочку, у полечку ўсё радзіла і пладзіла, то ўставай раненька, ды жні пазненька, бо хвасць хлеба не дасць.

## ДЗЕД І БАБА

Дзяды і дзядзькі на дзядзінцы дзялілі дзялянкі: хто краю – таму караваю, а хто з сярэдзіны – таму бярэзіны.

Дзеда Лявона прасіў і поп, і Ярошка, і Панас трошка, каб дзяліў усім па сем, гаспадару восем, гаспадыні дзевяць, бо кожны ведае, што ўсе бабры дабры, адна выдра – ліха яе бяры.

Але баба і гэта не ўпадабала і на дзеда зазлавала; пачала сварыцца, а затым і біцца: ці Лявон, ці не Лявон, а з свята вон!

Дзед спачатку маўчаў (старога вераб'я на мякіне не падманеш), а потым не стрываў: "Цыц! Яшчэ паглядзім, дзе каго пасадзім".

Аднак баба не змаўчала і на дзеда закрычала: "Што будзе, хай тое будзе, але Грышка на куце не будзе!.."

І пачалі яны валаводы валаводзіць: як баба да дзеда, так і дзед да бабы; а як дзед да бабы, так і баба да дзеда...

Ды раптам баба дзеда мяшком – бух! бух! А ён скрывіўся як серада на пятніцу: соль табе ў вочы, перац табе ў нос. Не слухаеш ківа, паслухаеш кія! Ды яе абушком – цюк! То сам спалохаўся (а каб цябе, бадай цябе!) ды бягом... А яе, як пані, на насілках панеслі.

Нездарма людзі кажуць: сіла і салому ломіць.

## ЦІТ

Быў наш Ціт суседам пабіт. За тое пабіт, што ўсё жыццё глядзіць, усё жыццё глядзіць, дзе што дрэнна ляжыць. А дзе што дрэнна ляжыць, туды і Ціт бяжыць, ажно ўвесь дрыжыць.

А перапала Ціту за пшано і за жыта, за пшано і за жыта, што ўкраў у Мікіты і схаваў пад карыта.

Учапіўся Мікіта ды за тое карыта, малаціў жа ім Ціта, малаціў жа ім Ціта за пшано і за жыта, за пшано і за жыта, што знайшоў пад карытам.

Вось за якую правінку пачасалі Ціту спінку.

Аднак жа і сёння Ціт Цітовіч па вуліцы шыбуе, па чужых надворках вачыма і носам цікуе: а можа што-небудзь упалое...

## БАЛБАТУХА

Ехаў дзедка на кірмаш, з ім на возе баба, якая і казала не сказала, і маўчала не змаўчала, толькі ўвесь час балбатала:

– А мой ты дзедка! Твая бабка з маёй бабкай былі сабе дзве бабкі, а ў іх быў шумны, думны, ды не разумны Ягнеша, які сем сёл аббрэша, ды назад прычэша.

Ён казаў, што кулік ды чайку схапіў за чубайку, а чайка кігіча:

Не плач, купіць мама калач, маслам памажа, на дарожку скажа: на чужы раток не накінеш платок і гузіка не пашыеш; хоць гвалту крычы, а на чужы каравай рота не разявай, бо каравай не праглынеш, а рот да вушэй раздзярэш. А ўсё ж, як клёцкі ў малаку, то я па дзве валаку, а як у водзе, то раз-два і годзе, бо ты чуў, відаць, што бульба з булкай біліся. Біліся, біліся, бульба булцы як дала – булка сплюшчылася...

– Хай цябе няхай! Языком малоць – не дровы калоць. Рэж, Мацей, не шкадуй лапцей, бо ўчора на базары лапці новы заказалі.

## БАБРЫ

Як у лесе, у ляску, у лясочку ды сышліся тры бабры, тры бабры на пясочку. Пачалі ўспамінаць пра старога Бабра Бабровіча, пра старую Бабрыху Баброву, пра маладога пра бабра, пра баброву дочку ды яе сыночка.

А баброва дочка гуляла ў лясочку, таксама ў лясочку са сваім сыночкам, са сваім сыночкам і старой бабрыхай, з маленькім сыночкам і старой бабрыхай гулялі паціху і не зналі ліха...

А сарока-стракатуха, стракатуха-балбатуха па ўсім лесе лятала, лятала – стракатала, стракатала – крычала: баброва дочка не проста гуляе ў лясочку, а гуляе ў лясочку са сваім сыночкам ды збірае грыбочкі і кветкі-званочкі...

Крылом воран прашумеў і з дакорам паглядзеў: ці табе няўежна, ці табе няўлежна, што языком, як атопкам па цымбалах, плешчаш? Лепш слухай многа, а стракачы мала, бо за доўгі язык не пахваляць.

## ХЛЕБ

– Без кавалка хлеба кепская бяседа. Кепская бяседа без сала і хлеба, – так казаў Адам тром сваім сынам.

– Калі хочаш хлеба мець, то трэба зямліцы глядзець. Зямля ўсяго дасць, але ў яе не паложыш – нічога не дасць. Таму пагуляць – смела адкладайце, а зрабіць – і на гадзіну не адкладайце. Помніце, што летнюю гадзіну зімовым тыднем не заменіш, бо так здаўна водзіцца: лета на зіму, зіма на лета працуе.

Яшчэ памятайце, ды на вус матайце, хто рана ўстае, таму Бог дае, а хто позна ходзіць – той сам сабе шкодзіць. Так і водзіцца: хто хлеба хоча, той мусіць быць у поце.

– Гутарка гутаркай, ды за працу час, – сказаў старэйшы сын Панас.

Работа, тата, не забота, забота – калі няма работы. Мы ж прыйшлі працаваць, то няма чаго часу каратаць. Трэба зямельку ўгнаіць, потым узараць, потым узбараніць. Хто аддае ніўцы, што яна родзіць, той да суседа па хлеб не ходзіць.

– Карацей, – сказаў сярэдні сын Мацей, – дзе шчырая праца, там густа, а дзе лянота, там пуста. Колас да коласа – не чуваць чалавечага голаса.

– Дзе дружна, там хлебна, – сказаў Кандрат, малодшы брат, – а праца і рукі – моцныя зарукі таму, што нашай гаспадыні будзе і сала і масла ў скрыні.

*Алег Лойка*

**Стукалачкі**

Стукалачкі – стукачы,
Стукай, стукай, грукачы, –
Хто застукае каго,
Садзім у каморку,
Разбягаемся тады
Скрозь па панадворку.
    Стукалачкі – стукачы,
    Як далей бы уцячы!..
Чым далей ад стукача, болей засцярогі,
Хто куды ад стукача.
Скуль бяруцца ногі!
    Стукалачкі – стукачы,
    Застукалі, паскачы,
    З крыўдай, болем горкім
    Сам лічы да сотні,
    Выбягай з каморкі,
    Нібы з падваротні.
Стукалачкі – стукачы,
А наўкола ўсё маўчыць.
Стоенасць, трывога,
Не знайсці нікога...
    Ўдаль жыццё маё плыве,
    А ўсё ў памяці жыве:
    "Стукалачкі – стукачы,
    Як ад вас мне ўцячы!"...

## ГАВАРУН

Гавары чыстагаворку за чыстагаворкай, скорагаворку за скорагаворкай, гавары чыста, чыста, чыста, скора, скора, скора, гавары, гавары, усё чыста выгавары, выгавары, выгавары, усё выскорагавары, выскорагавары, да не загаварыся.

Карп і Пракоп, Пракоп і Карп, то чатыры, а не Карпы, не Пракопы, а Карпавыя Пракопы і Пракопавыя Карпы.

Кузьма падкузьміў Ягора,
Ягор аб'ягорыў Рыгора,
Дзямід паддзямідзіў Мікіту,
Мікіта змікіціў, пачаў валакіту.
Сказаў Фабіяну:
Фабіян, набі Яна.
Ян пабег па Хомку,
Хомка – па Пахомку,
Пахомка – па Пiліпа,
Піліп – па Архіпа.
Крычаў Архіп, пакуль ахрып.
У самы сон прыбег Самсон.

От была буча, куча-валакуча, калі трыццаць тры караблі лавіравалі, лавіравалі, ды не вылавіравалі, а інжынеры нівеліравалі, нівеліравалі, ды не вынівеліравалі, бо барабаншчыкі ў барабаны барабанілі, барабанілі, панабарабаньваліся, у бубны бубнілі, бубнілі, панабубніваліся, а тады ўзялі ды ўсё фосфарам фасфарысцыравалі, фасфарысцыравалі дый пафасфарысцыравалі.

Пасля гэтага кола выкалесілася, перавыкалесілася, палукашак выпалукашыўся, перавыпалукашыўся, капылы перакапылілі, перавыкапылілі, капыты перакапыцілі, перавыкапыцілі.

Так і атрымалася: гуз на гузе і чатыры каўняры ў кашулі. Або: і мыла, і шыла, і прала, і ткала – і ўсё языком. Стук, грук – абы з рук.

Вось як трэба чыста гаварыць, скора гаварыць, усе чыстагаворкі перачыставыгаварыць, усе скорагаворкі пераскорагаварыць, перавыскорагаварыць, ды не загаварыцца.

# КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА МОВУ БЕЛАРУСКУЮ

*Францішак Багушэвіч*

**З прадмовы да зборніка "Дудка беларуская"**

Браццы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, ды і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя "мужыцкай" завуць, а завецца яна "беларускай". Я сам калісь думаў, што мова наша – "мужыцкая" мова і толькі таго. Але, паздароў Божа добрых людцоў, як навучылі мяне чытаць, пісаць, з той пары я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і праканаўся, што мова наша ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая. Чытаў я ці мала старых папераў па дзвесце, па трыста гадоў таму пісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі нашай мовай чысцюсенькай, як бы вот цяпер пісалася...

Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам, і гаворым жа мы ёю шмат і добрага, але так ужо мы самі пусцілі яе на здзек, не раўнуючы, як і паны вялікія ахвотней гавораць па-французску, як па-свойму.

Ці ж ужо нам канечне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна. Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але наперш трэба знаць сваю.

Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замерлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Пазнаюць людзей ці па г а в о р ц ы, ці па адзежы, хто якую носе; ото ж г а в о р к а, язык і ёсць адзежа душы.

*Яўгенія Янішчыц*

**Па-беларуску**

Будзе слоту абвяшчаць прагноз,
Лістабой учыніць ператруску.
Песняй, што расчуліла да слёз,
Я прыму цябе па-беларуску.

Краю блаславёнага дачка,
Дзякуй лёсу,
Маю не ў нагрузку –
Зорны крыж Мацея Бурачка...
Ты ўва мне прызнаеш беларуску?

Сто разоў шукай другой красы,
А тым больш што свет даўно не вузкі!
...Ды калі ты не бязродны сын –
Гавары са мной па-беларуску.

Час – вар'ят, шалёнае таксі.
Толькі ўсё ж не мыслю я аб спуску.
Кажаш, што магілы зараслі?
Памаўчы са мной па-беларуску.

*Янка Сіпакоў*

**Свая мова**

– Як прабабка мая казала:
Жыта;
Як бабуля мая спявала:
– Жыцце;
Як мама мая ласкавела:
– Мова –
Каб так і для сына майго –
Жыцце;
Каб так і для ўнука майго –
Мова...

Свая мова –
З веку ў век.

# ПРА АЎТАРА

Андрэй Каляда нарадзіўся 3 чэрвеня 1940 г. у вёсцы Панямонь Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці. Кандыдат педагагічных навук (1975), прафесар (1993). Паходзіць з сялянскай сям'і. Пасля заканчэння СШ № 1 г. Навагрудка ў 1957 г. працаваў токарам на машынабудаўнічым заводзе ў г. Горлаўка, Украіна. У 1958 г. паступіў на акцёрскі факультэт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, пасля заканчэння якога быў прыняты ў трупу Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы. Артыстычную дзейнасць (1962–1968) сумяшчаў з педагагічнай – выкладаў выразнае чытанне ў Мінскім педінстытуце імя М.Горкага (1963–1989), адначасова – курс сцэнічнай мовы ў БДТМІ, з 1989 па 2000 – прарэктар па вучэбнай рабоце гэтага інстытута. З восені 2000 г. – прафесар кафедры сцэнічнай мовы і вакалу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Аўтар шматлікіх артыкулаў па праблемах майстэрства вуснай мовы, сцэнічнага слова, методыцы навучання выразнаму чытанню, вучэбных і метадычных дапаможнікаў для студэнтаў філалагічных і тэатральных факультэтаў, а таксама настаўнікаў беларускай літаратуры. У 1970 г. выйшла першая кніга А.Каляды – вучэбны дапаможнік "Выразнае чытанне" (з камплектам грамафонных пласцінак), у 1976 – яе 2-е выданне, 1989 – 3-е; 1973 – "Выразнае чытанне сатырычных вершаў, баек і драматычных твораў" (з камплектам з 5 грампласцінак); 1978 – "Расказванне і чытанне ў дзіцячым садзе"; 1980 – "Дыкцыя і арфаэпія", фонадапаможнік: камплект з 3 грампласцінак; 1982 – "Выразнае чытанне", IV–VII класы. А.Каляда ўкладальнік "Слоўніка акцёра і рэжысёра" (1995); чатырох кніг "Хрэстаматыя па сцэнічнай мове" (1998–2000, з І.Курганам); даведніка "Выпускнікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў" (2005).

А.Каляда быў старшынёй секцыі сцэнічнай мовы Беларускага тэатральнага аб'яднання (1971–1987), арганізатар і мастацкі кіраўнік народнага тэатра чытальнікаў "Жывое слова" (1966–1991), вядучы вучэбнай перадачы "Беларуская літаратура ў школе" на Беларускім тэлебачанні (1971–1991).

У творчай скарбонцы А.Каляды пераклад на беларускую мову ўсіх апавяданняў, чатырох аповесцяў і трох раманаў Ф.Дастаеўскага: "Аповесці. Апавяданні" (2002), "Выбраныя творы" (2004), а таксама асобных твораў класікаў рускай літаратуры – Чэхава, Гогаля, Тургенева, Купрына, Буніна, Булгакава і іншых.

# ЗМЕСТ

Навучальнае выданне

**Каляда** Андрэй Андрэевіч

# БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ ВЫМАЎЛЕННЕ

Практыкум па дыкцыі і арфаэпіі

Рэдактар
*Марыя Кавальчук*

Карэктар
*Марыя Ігнаценка*

Тэхнічны рэдактар
*Алесь Дрыбін*

Мастак
*Віталь Катовіч*

Макетаванне
*Наталя Апанасевіч*

*У афармленні вокладкі выкарыстаны фотаздымак Таццяны Царук з Навагрудка*

Падпісана да друку 23.01.06. Фармат 60x90 $^1/_{16}$. Папера афсетная.
Гарнітура Times New Roman. Ум. друк. арк. 6.3.
Наклад 1000 паасобнікаў. Замова № 3.

Выдавец і паліграфічнае выкананне НВК "Тэхналогія".
ЛВ № 02330/0133466 ад 09.02.05. 220007. Мінск. вул. Ляўкова. 19.

Сертыфікат выдавецкай дзейнасці і паліграфічных паслуг МН № 0000385.
выдадзены 19.03.99 Беларускай гандлёва-прамысловай палатай.